ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№6 (99) чэрвень 2019 год
CATHOLICNEWS.BY

# У ваколіцах Глыбокага ўшанавалі памяць святароў-мучанікаў

Стар. 9

## У Італіі ксёндз і адначасова шматдзетны бацька адзначае 100-гадовы юбілей

*Чытайце на старонцы 3*



## По чарзе.

Як праваслаўныя і каталікі моляцца ў адной памежнай капліцы


Стар. 8

## Ответы на ваши вопросы на страницах 11 и 14



Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



# Біскуп Алег Буткевіч удзяліў дыяканскае і святарскае пасвячэнні ў супольнасці марыянаў

**8 чэрвеня ў Ліхені ў санктуарыі Маці Божай Ліхенскай у супольнасці айцоў-марыянаў адбылася вялікая ўрачыстасць.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст; фота са старонкі супольнасці ў Facebook*

Два дыяканы – Матэуш Целецкі і Лукаш Гай – сталі прэзбітарамі, а два клерыкі – Ілля Саўчанка і Каспер Паўляк – дыяканамі. Пасвячэнні ўдзяліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

Сярод новапасвечаных – дк. Ілля Саўчанка MIC, які паходзіць з парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім.

На заканчэнне ўрачыстасці біскуп Алег падзякаваў супольнасці за служэнне ў Беларусі, асабліва ў камуністычныя часы, а таксама ўзгадаў пра расіцкі санктуарый, што ў Віцебскай дыяцэзіі, дзе і цяпер служаць айцы. Якраз сёлета адзначаецца 20-годдзе беатыфікацыі святароў-мучанікаў з Расіцы.





# Храм Саграда Фамілья ў Барселоне дабудуюць праз 137 гадоў прастою

**Завяршыць работы плануецца да 2026 года – 100-годдзя смерці Антоніа Гаўдзі.**

Адзін з самых знакамітых каталіцкіх храмаў свету – Саграда Фамілья ў іспанскай Барселоне – атрымаў дазвол на працяг будаўніцтва. Мэрыя сталіцы Каталоніі выдасць ліцэнзію, якая дазволіць завяршыць праект архітэктара Антоніа Гаўдзі, паведамілі ў парафіі Саграда Фамілья (храм Святой Сям'і). Аднак у бюджэт Барселоны давядзецца выплаціць 36 млн еўра – за тое, што да гэтага будаўніцтва вялося без ліцэнзіі.

Такім чынам, узвядзенне сабора – папулярнага турыстычнага аб'екта – адновіцца праз 137 гадоў, а завяршыць усе работы плануецца да 2026 года. Тады будзе адзначацца 100-годдзе смерці архітэктара Антоніа Гаўдзі, якога хочуць прызнаць святым.

Нагадаем, храм пачалі будаваць у 1882 годзе, і з таго часу ён застаецца недабудаваным. Справа ў тым, што адзін з самых вядомых даўгабудаў свету ўзводзіцца на прыватныя ахвяраванні. Па рашэнні ініцыятараў будаўніцтва храма работы фінансуюцца выключна за кошт ахвяраванняў вернікаў.

Дарэчы, нягледзячы на незавершаную будоўлю, сабор быў асвечаны Папам Рымскім Бэнэдыктам XVI. У храме служаць святыя Імшы. Саграда Фамілья мае статус Малой папскай базілікі. Штогод святыню наведваюць каля чатырох мільёнаў турыстаў.

*Katolik.life*

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

# Прэзідэнт Польшчы наведаў цяжкахворага новапрэзбітара і павіншаваў яго з Днём нараджэння

7 чэрвеня цяжкахворы кс. Міхал Лось адзначаў дзень нараджэння. Святар знаходзіўся ў анкалагічным аддзяленні шпіталя, дзе зусім нядаўна прыняў пасвячэнне прэзбітарату. А ў гэты дзень прымаў незвычайнага госця, паведамляе wpolityce.pl.

Віншаванні з нагоды свята яму асабіста склаў Прэзідэнт Анджэй Дуда. Новапрэзбітар удзяліў кіраўніку дзяржавы прыміцыйнае благаслаўленне.

**P.S.** 17 чэрвеня новапрэзбітэр Кангрэгацыі ксяндзоў-арыяністаў кс. Міхал Лось FDP адышоў да Пана.

*Вечны адпачынак дай яму Пане...*







## Святы Айцец сустрэнецца з Прэзідэнтам Расіі

**Папа прыме ў Ватыкане Прэзідэнта Расіі. Гэта будзе не першая сустрэча Францішка з Уладзімірам Пуціным. Факт аўдыенцыі пацвердзіў кіраўнік Залы Друку Святога Пасаду.**

“Магу пацвердзіць, што Святы Айцец прыме на аўдыенцыі ў Ватыкане Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна. Яна пройдзе 4 ліпеня гэтага года”, – сказаў Алесандра Джызоці, адказваючы на пытанне журналістаў.

Пуцін сустракаўся з Францішкам у Ватыкане ў чэрвені 2015 года. Тады расійскі Прэзідэнт і Пантыфік абмеркавалі складанае становішча хрысціян на Блізкім Усходзе і крызіс ва Украіне, а таксама ролю духоўных каштоўнасцей у збліжэнні рэлігій.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Святы Пасад абнародаваў дакумент на тэму гендару

**Дакумент на тэму гендарнага пытання ў сферы адукацыі абнародавала Кангрэгацыя каталіцкай адукацыі. Плён амаль двухгадовай працы прадставіў яе прэфект, кардынал Джузэпэ Версальдзі.**

Дакумент, які атрымаў назву “Стварыў мужчыну і жанчыну: Шляхам дыялогу адносна гендарнага пытання ў адукацыі”, заахвочвае да дыялогу па пытанні гендару і, усведамляючы “высокую рызыку непаразуменняў і ідэалагічных канфліктаў у гэтай сферы”, прапануе ў якасці найбольш дарэчных метадаў працы “слуханне, абмеркаванне і вылучэнне прапаноў”.

У тэксце ёсць аналіз гісторыі гендарнага пытання і прапануецца яго хрысціянска-антрапалагічнае бачанне. Кангрэгацыя заахвочвае размяжоўваць гендарную ідэалогію і сферу вывучэння гендарнага пытання. Спасылаючыся на Апостальскую адгартацыю Францішка “Amoris Laetitia”, дакумент нагадвае, што гендарная ідэалогія “адмаўляе адрозненне і натуральную ўзаемадапаўняльнасць мужчыны і жанчыны. Яна паказвае грамадства без палавых адрозненняў і баналізуе антрапалагічныя асновы сям’і”.

У той жа час дакумент падкрэсliвае наяўнасць асобных “элементаў слушнага кансэнсусу” з гендарнай палітыкай. Сярод іх – “павага да кожнага чалавека з яго адметнасцямі і разнастайнасцю ўмоў, (...) каб ніхто не станавіўся аб’ектам булізму, гвалту, знявагаў і несправядлівай дыскрымінацыі; наданне вартасці жаноцкасці.

Новы дакумент прапануе антрапалагічна-хрысціянскае бачанне, якое разглядае сексуальнасць як сутнасны складнік чалавека, яго спосаб быцця, самавыяўлення, адносін з іншымі людзьмі і праяўлення любові. Сексуальнасць з’яўляецца інтэгральнай часткай працэсу чалавечага развіцця і адукацыі, сцвярджаецца ў дакуменце.

Тэкст будзе распаўсюджаны сярод нацыянальных біскупскіх канферэнцый для далейшай перадачы ў каталіцкія адукацыйныя структуры, рэлігійныя інстытуты, асацыяцыі вернікаў, хрысціянскія сем’і і іншыя структуры, залучаныя ў сферу адукацыі ў духу хрысціянскай веры.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



Легендарны Лэс Кастэла

# “Flying Fathers”.
## Як канадскія святары стварылі хакейную каманду

Яе дэвіз: “Playing and praying” (“Гуляем і молімся”). “The Flying Fathers” (“Айцы, якія лятаюць”) – група канадскіх каталіцкіх святароў, што як хакейная каманда рэгулярна ездзілі па Паўночнай Амерыцы з паказальнымі матчамі ў мэтах дабрачыннасці. Арганізацыя была заснаваная ў 1963 г. двума святарамі – Браянам МакКі (Brian McKee) і Лэсам Кастэла (Les Costello). Кастэла быў прафесійным хакеістам, гуляў у камандзе “Toronto Maple Leafs” у 1940-я гады, пакуль не вырашыў стаць святаром. Уладальнік Кубка Стэнлі.

Задуманы як аднаразовы праект, “The Flying Fathers” нечакана здабылі папулярнасць і правялі за час існавання 907 матчаў, сабраўшы больш за 4 мільёны даляраў. Праект дзейнічаў да 2009 года.

У лютым 2019 года каманда была адроджаная для трох гульняў у Антарыа і Квебеку з надзеяй на больш доўгатэрміновы праект.

*Паводле Вікіпедыі*





Момант з гульні і эмблема каманды

# У Італіі ксёндз і адначасова шматдзетны бацька адзначае 100-гадовы юбілей



Кс. Проба Ваккарыні разам з біскупам Франчэска Ламбясі і сынамі-святарамі падчас Імшы з нагоды 99-й гадавіны нараджэння. Фота misyjne.pl/youtube

**Каталіцкі ксёндз і бацька семярых дзяцей кс. Проба Ваккарыні (Probo Vaccarini) 4 чэрвеня ў Рыміні (Італія) адзначыў 100-гадовы юбілей. Юбіляр як удавец, заахвочаны сваёй сям’ёй, скончыў тэалогію і ва ўзросце 69 гадоў прыняў святарскае пасвячэнне.**

Ад таго часу ён з’яўляецца пробашчам маленькай італьянскай супольнасці. Круглую дату святар адзначыў урачыстай св. Імшой у катэдры ў Рыміні, якую цэлебраваў біскуп Франчэска Ламбясі (Francesco Lambiasi) разам з юбілярам і яго чатырма сынамі-святарамі.

Кс. Ваккарыні нарадзіўся 4 чэрвеня 1919 года. Пасля ўдзелу ў расійскай кампаніі падчас Другой сусветнай вайны адвучыўся і працаваў геадэзістам. У сужэнстве з Ганнай Марыяй нарадзіліся тры дачкі і чатыры сыны.

Дочкі стварылі свае сем’і, а ўсе сыны выбралі святарскі шлях жыцця. Пасля смерці жонкі, якой быў 51 год, штораз больш браў удзел у жыцці касцёла. Найперш стаў акалітам, потым сталым дыяканам. Будучы вялікім шанавальнікам св. айца Піа, з якім пазнаёміўся ў дзяцінстве і які быў яго духоўным кіраўніком, арганізоўваў пілігрымкі да Сан-Джавані Ратонда. Менавіта там падчас Імшы пазнаў, што Бог хоча, каб ён стаў святаром. “Дзецям мая ідэя спадабалася, і яны вельмі мне дапамагалі, каб я змог рэалізаваць яе”, – кажа кс. Ваккарыні. Пасвячэнне прыняў у 69-гадовым узросце. Для гэтага спецыяльна атрымаў дазвол з Апостальскай Сталіцы. “Маю за плячыма 30 гадоў святарства, а адчуваю радасць і энтузіязм, як у дзень пасвячэння”, – прызнаецца віноўнік урачыстасці.

“Кс. Проба з’яўляецца для нас айцом, сапраўдным патрыярхам. Мае некалькі рэкордаў, з якімі павінен трапіць у Кнігу Гінеса. Папершае, ён ксёндз і мае чатырох сыноў-святароў, акрамя таго прыняў усе сем святых сакрамантаў, – кажа біскуп Ламбясі. — У рэаліях нашай дыяцэзіі нясе сведчанне прыгожага хрысціянскага жыцця, а таксама бацькоўства: мае сапраўды шмат духоўных дзяцей, якіх вядзе па жыцці. Усё гэта з’яўляецца прыкладам незвычайнага святарскага братэрства”.



Проба Ваккарыні з жонкай і дзецьмі. Фота misyjne.pl/youtube

*Паводле матэрыялаў* ***Radio Watykańskie***
*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч***

# Духоўныя семінарыі ў Гродне і Пінску пачынаюць прыём кандыдатаў на 2019–2020 навучальны год

**Старшыня Камісіі па справах фармацыі семінарыстаў і святароў пры ККББ біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB паведамляе пра прыём кандыдатаў на 2019–2020 навучальны год у вышэйшыя каталіцкія духоўныя семінарыі ў Гродне і Пінску.**

Працэс падрыхтоўкі да святарства паводле новай праграмы Ratio Fundamentalis Institutionis Sacerdotalis ад 08.12.2016. працягваецца сем гадоў, уключаючы ў сябе інтэгральную фармацыю: чалавечую, духоўную, інтэлектуальную і пастырскую.

Семінарыя як вышэйшая навучальная ўстанова Рыма-Каталіцкага Касцёла дае неабходныя веды і развівае рысы, патрэбныя для плённага служэння людзям і Касцёлу ў якасці святара.

У працэсе падрыхтоўкі семінарысты ўзрастаюць у веры, будуючы падмурак духоўнага жыцця праз розныя аскетычныя практыкі, і пазнаюць сябе як чалавека на розных узроўнях. Вывучаюць філасофскія і тэалагічныя прадметы, а таксама замежныя мовы і неабходныя дапаможныя дысцыпліны.

Акрамя духоўнага фармавання і інтэлектуальнай падрыхтоўкі прадугледжана літургічная практыка ў парафіях. Пасля заканчэння сямігадовай фармацыі кандыдат мае права звяртацца да біскупа з просьбай удзяліць яму сакрамант пасвячэння.

**ПРЫЁМ ДАКУМЕНТАЎ**

Рэктарат семінарыі ў Гродне:

па папярэднім запісе па тэл.: +375 15 262 22 22.

Тэрмін: 17 чэрвеня – 10 жніўня 2019 г.

Адрас: г. Гродна, вул. Парыжскай Камуны, 1.

Дакументы прымае дзяжурны святар.

**Мінска-Магілёўская архідыяцэзія:**

па папярэднім запісе

па тэл.: +375 29 553 90 76.

**Тэрмін:** 1 ліпеня – 10 жніўня 2019 г., акрамя нядзеляў і ўрачыстасцяў.

**Адрас:** г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.

**Дакументы прымае ксёндз-канонік Дзмітрый Пухальскі.**

**Віцебская дыяцэзія:**

па папярэднім запісе

па тэл.: +375 29 884 54 82.

**Тэрмін:** 17 чэрвеня – 10 жніўня 2019 г., акрамя нядзеляў і ўрачыстасцяў.

**Адрас:** Віцебская вобл., г. Глыбокае, вул. Савецкая, 1.

**Дакументы прымае ксёндз Мікалай Ціхановіч.**

**Рэктарат семінарыі ў Пінску:**

па папярэднім запісе

па тэл. +375 16 532 31 57

ці +375 29 727 31 98.

**Тэрмін:** 17 чэрвеня – 10 жніўня 2019 г. з 10.00 да 17.00, акрамя нядзеляў і ўрачыстасцяў.

**Адрас:** г. Пінск, вул. Леніна, 16.

**Дакументы прымае ксёндз-рэктар Андрэй Рылка.**

**УСТУПНЫ ЭКЗАМЕН**

Прыём дакументаў і ўступны экзамен для кандыдатаў з усіх дыяцэзій адбудзецца ў два туры па адрасе:

г. Мінск, вул. Кальцова, 153.

**1-ы тур:** 23 ліпеня – прыезд і падача дакументаў; 24 ліпеня – экзамен;

**2-і тур:** 12 жніўня – прыезд і падача дакументаў; 13 жніўня – экзамен.

На ўступным экзамене кандыдат павінен паказаць свае веды па асноўных тэмах са Святога Пісання, катэхізіса, гісторыі Касцёла, гісторыі Касцёла ў Беларусі, у дыяцэзіі, актуальнага жыцця Каталіцкага Касцёла.

**Кандыдаты ў семінарыю павінны прадаставіць наступныя дакументы:**

уласнаручна напісаная заява аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння;

уласнаручна напісаная аўтабіяграфія;

атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы.

Выпускнікі школ: сертыфікаты трох тэстаў ЦТ (цэнтралізаванага тэставання):

беларуская/руская мова; замежная мова; гісторыя Беларусі / сусветная гісторыя, грамадазнаўства;

пасведчанне аб хросце;

пасведчанне аб канфірмацыі;

пасведчанне аб удзеле ў катэхезе;

характарыстыка ад пробашча;

характарыстыка ад катэхета;

медыцынская даведка для паступлення ў ВНУ (форма 1 здр/у-10);

пашпарт і яго ксеракопія (старонкі 31–33);

ваенны білет або прыпісное пасведчанне (яго ксеракопія);

4 фотаздымкі 3x4 см.

Кандыдат павінен быць католікам-практыкам (не менш за тры гады) і валодаць неабходнымі якасцямі для будучага святарскага служэння.

Па ўсіх пытаннях звяртацца да кс. Паўла Эйсманта, куратара 1 курса Вышэйшых духоўных семінарый у Гродне і Пінску, па тэл.: +375 33 687 19 53 або да святароў, якія прымаюць дакументы ў кожнай дыяцэзіі.

*Catholic.by*





# Катэхетычны каледж у Баранавічах распачынае ўступную кампанію

**Катэхетычны каледж імя З. Лазінскага ў Баранавічах паведамляе пра прыём кандыдатаў на 2019–2020 навучальны год.**

**Каб стаць навучэнцам каледжа, неабходна:**

1. Вызначыцца са спецыялізацыяй. Набор адбываецца ў адну з чатырох груп па спецыялізацыі на выбар:

а) катэхетыка (катэхет-арганізатар літургіі; катэхет-арганізатар рэлігійнага турызму і адпачынку);

б) агульная тэалогія (без права выкладання катэхізіса);

в) сямейнае кансультаванне;

г) кансультаванне ў галіне залежнасцяў.

Спецыяльнасць "Катэхетыка" прадугледжана для асобаў, якія жадаюць пасля заканчэння ўстановы працаваць у парафіях у якасці катэхета (выкладчыка катэхізіса).

Спецыяльнасць "Агульная тэалогія" прадугледжана для асобаў, якія не маюць намеру працаваць катэхетамі. Гэтая спецыялізацыя разлічаная на людзей, якія жадаюць паглыбіць сваю веру і веды, вывучаючы каталіцкую тэалогію.

Спецыяльнасць "Сямейнае кансультаванне" прадугледжана для асобаў, якія жадаюць на прафесійным узроўні дапамагаць душпастырам у вырашэнні разнастайных духоўных і маральных пытанняў, звязаных з сужэнскім, сямейным жыццём вернікаў.

Спецыяльнасць "Кансультаванне ў галіне залежнасцяў" прадугледжана для асобаў, якія жадаюць на прафесійным узроўні дапамагаць душпастырам у вырашэнні разнастайных духоўных і маральных праблем, звязаных з рознымі залежнасцямі і сузалежнасцю вернікаў.

2. Неабходна прадаставіць наступныя дакументы:

заява на імя дырэктара (напісаная ўласнаручна);

біяграфія (напісаная ўласнаручна);

рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;

копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі (мірапамазання);

3 фотаздымкі 3×4;

копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;

копія пашпарта;

медыцынская даведка па форме 086.

3. Здаць экзамен з катэхізіса і прайсці вусную кваліфікацыйную размову.

Дакументы можна падаць раней альбо непасрэдна ў дзень здачы экзаменаў.

**Уступны экзамен для абітурыентаў у 2019 г.:**

17 жніўня — першы тур.

24 жніўня — другі тур.

Увага! Пажадана перад падачай дакументаў звязацца з сакратарыятам каледжа і ўзгадніць час падачы дакументаў па тэлефонах або праз электронную пошту:

+375 16 357 93 14

+375 29 513 57 92 (МТС)

e-mail: callegge@gmail.com

*Catholic.by*

# Вернікі з вёскі Германавічы здзейснілі пілігрымку да капліцы Святой Альжбеты



**Пахвалёны Езус Хрыстус!**
**У нашай Германавіцкай парафіі існуе традыцыя паломніцтва да капліцы Святой Альжбеты, якая знаходзіцца ў былой вёсцы Бальнова Шаркаўшчынскага раёна.**

Як сведчаць архіўныя звесткі, якія маюцца ў кнізе Аляксандра Адамковіча "Вёска Германавічы, Зорка (Сініцы) і ваколіцы (да 1939 г.)", гэты населены пункт у 80-х гадах XIX стагоддзя належыў памешчыцы Юліі Акушцы. Няма дакладнай даты ўзвядзення святыні, але ёсць гістарычныя дадзеныя, што ў 1881 годзе яна была адноўлена, а ў 1927 годзе быў зроблены маленькі хор. У алтары абраз Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі, які ахвяравала пані Данейкава. Такім чынам, можна меркаваць, што ўжо больш чым паўтара стагоддзя гэта капліца збірае вернікаў, каб яны маглі пачуць Слова Божае.

Першага чэрвеня бягучага года а сёмай гадзіне раніцы 36 парафіян сабраліся ля германавіцкага касцёла Перамянення Пана. Ксёндз-дэкан Ян Пугачоў удзяліў пілігрымам блаславенне, і ўсе рушылі ў шлях, хоць і не вельмі далёкі, але такі важны для кожнага, поўны роздуму пра веру, пра жыццё, пра свае ўчынкі. Мы, людзі старэйшага ўзросту, моладзь, дзеці, "шчыра адкрыўшы ўсе душы", ішлі са сваім інтэнцыямі, спадзяваннямі, просьбамі і ўдзячнасцю да Пана Бога і Яго Найсвяцейшай Маці.

Ішлося лёгка, спакойна і пабожна, як трапна сказаў ксёндз Валерый Орсік, які раздзяліў з намі радасць гэтай пілігрымкі. Мы ўважліва слухалі канферэнцыю, якую ён ладзіў, прамаўлялі Ружанец, літанію да Найсвяцейшай Панны Марыі. Адчувалася сапраўдная еднасць. Кіраўнік касцельнага хору Святлана Міхайлаўна Лагун распачынала адзін за другім спевы, якія падхоплівалі пілігрымы, і, здавалася, сама прырода разам з намі праслаўляла Езуса.

Ранішні час ў вёсцы поўны клопатаў. Хтосьці ў гэты дзень ішоў на працу, настаўнікі і выпускнікі школы спяшаліся на першы экзамен. Усе, хто сустракаўся нам на шляху, віталі пілігрымаў адкрытай, шчырай усмешкай або проста прывітальным узмахам рукі. Было прыемна адчуваць сябе носьбітамі гэтай агульнай радасці, якую мы неслі да святыні. У вёсцы Сталіца прывітаць пілігрымаў выйшла 90-гадовая парафіянка Генавефа Юзэфаўна Далевіч. Сустрэча з ёй прыдала нам новыя сілы.

Праз паўгадзіны ўдалечыні мы ўбачылі блакітны храм у промнях сонца – капліцу Святой Альжбеты. Святую Імшу цэлебравалі ксёндз Ян Пугачоў і ксёндз Валерый Орсік. Казанне прамовіў Ганаровы канонік Віцебскай катэдральнай капітулы ксёндз Валерый, які проста і зразумела распавёў нам пра адведзіны Марыяй дому Захарыя і Альжбеты, пра тое, што кожны чалавек павінен жыць з верай, з разуменнем, што Езус Хрыстус дае нам сілу, узмацняе нас духоўна.

У нашай парафіі цудоўна ведаюць ксяндза Валерыя як добрага прамоўцу, словы якога змушаюць да роздуму над сваімі ўчынкамі, адносінамі да блізкіх, знаёмых, суседзяў. Мы ўдзячныя яму за ўдзел у пілігрымцы, за падтрымку і прамову, да якой мы не раз звернемся ў сваіх думках.

Пасля Імшы ўсе парафіяне сталі ўдзельнікамі працэсіі вакол капліцы і на заканчэнне праспявалі спеў "Цябе, Бога, праслаўляем". На працягу ўсёй пілігрымкі святары ўдзялялі сакрамант споведзі.

Напрыканцы свята вернікі былі запрошаныя на тэматычную канцэртную праграму, якую падрыхтавалі самадзейныя артысты Сталіцкага сельскага клуба, а парафіяне з вёскі Сталіца частавалі пілігрымаў рознымі прысмакамі.

Ксёндз Ян Пугачоў падзякаваў усім удзельнікам і арганізатарам пілігрымкі, а мы, вернікі, вельмі ўдзячныя нашаму ксяндзу за тое, што ён імкнецца данесці Слова Божае да кожнага, скіроўвае нашы думкі і дзеянні на тое, каб Езус кожны дзень нараджаўся ў нашым сэрцы, а мы знаходзілі час на размову з Ім – на малітву.

Для нас ксёндз Ян – прыклад паважлівых адносін да духоўнай і матэрыяльнай спадчыны. Ужо ў пяты раз ён арганізаваў пілігрымку ў Бальнова, традыцыя якой зарадзілася яшчэ ў мінулым стагоддзі. Наш святар таксама клапоціцца, каб дакладна аднавіць гісторыю касцёла Перамянення Пана і вёскі Германавічы ўвогуле.

З павагай і пашанай дзякуем ксяндзу Яну за моц веры, якая, нібы светлы прамень, пранікае ў душу кожнага, за тое, што запальвае агонь любові да Бога ў сэрцах нашых дзяцей. Шчырасць, ахвярнасць, цярплівасць, спагадлівасць нашага святара з'яўляюцца добрым узорам для нас усіх.

Зусім нядаўна ксёндз Ян Пугачоў быў прызначаны дэканам Шаркаўшчынскага дэканата. І, карыстаючыся выпадкам, мы віншуем яго з гэтай падзеяй, жадаючы Божай дапамогі і блаславлення ў шматлікіх справах і пачынаннях, моцнага здароўя, адданых вернікаў і поспехаў на святарскай ніве!

*Вернікі парафіі*
*Перамянення Пана*
*ў вёсцы Германавічы*



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Аб’яўленне Маці Божай у Будславе

## Аповяд 1650 года

**Неяк нядаўна я пераклаў невялікі ўрывак з кнігі айца Элеўтэрыя Зеляевіча “Zwierzyniec na ziemi niebieski, to jest Puszcza Budzka łaskami Bożymi opływająca, których ludzie przy cudownym obrazie Najśw. Marii Panny w kościele OO. Bernardynów będącym doznawają”, выдадзенай у Вільні ў 1650 годзе. Гэтая кніга пра кляштар у Будзе (Будславе), тамтэйшы абраз Маці Божай і цуды, якія Бог там чыніў.**

**Кастусь Шыталь**, *shtobylo.by*

“Браты Віленскага канвента, прыняўшы гэты кавалак лесу ад высланых на яго вылучэнне каралеўскіх камісараў, на вылучэнне яго высланых, буды сабе і капліцу з біскупскага дазволу ў гэтай пушчы на беразе ракі Сэрвачы, дзе цяпер кляштарны сад, пабудавалі, і там удваіх, часам утраіх ці ўчатырох вялі пустэльніцкае жыццё, дрэва на апал у віленскі кляштар па рацэ Сэрвачы, якая ўпадае ў Вяллю, сплаўлялі.

Заўважылі іх людзі, якія ў прылеглых мясцінах жылі, і, бачачы людзей, дасюль не бачаных, вельмі з іх вопраткі, асобаў, а найболей ладу жыцця, дзівячыся, часта да іх будаў пачалі падыходзіць. Законнікі часта іх бачылі, і паступова рознымі спосабамі і лагоднасцю да сабе прыцягваючы, навучалі святой каталіцкай веры, і паступова вызваліўшы іх ад забабонаў, з дазволу ардынарыя (дазвол і па сённяшні дзень мае гэтае месца ab officio), да святога Хросту прыводзілі.

Праз кароткі час пасля таго, як гэтую дзейнасць адначасова з іншымі сваімі заняткамі з ахвотай і гарачай любоўю да Бога для збаўлення бліжняга сталі праводзіць, мясцовыя жыхары, якія пасвілі скаціну ці працавалі ў прылеглых лясах, заўважалі не раз і не два, што вельмі рана незвычайнае вогненнае святло сыходзіла на гэтыя манаскія будкі, і часта ахоплівала гэтыя будкі, не прыносячы ніякай шкоды. Яны далі ведаць пра гэта не толькі іншым жыхарам, але расказалі пра тое, што бачылі, і самім пустэльнікам. А таксама некаторыя вартыя даверу людзі шляхецкага стану, пацвердзіўшы свае словы прысягай, сказалі, што яны самі са сваёй чэляддзю часта, асабліва перад узыходам сонца, бачылі гэтае палымянае святло.

Пустэльнікі абмеркавалі гэтую справу і адразу далі ведаць у стары віленскі кляштар. Той неадкладна накіроўвае ў гэтую пушчу святароў, якія прыбылі і правялі стараннае даследаванне, апытаўшы мясцовых жыхароў пра той агонь, які сыходзіў на буды сваіх братоў, а потым прызначылі пост і малітву, просячы Усемагутнага Бога, каб са Сваёй ласкі растлумачыў, чым ёсць гэтае надзвычайнае святло, якое паказваецца над будамі.

На трэці дзень, пасля заканчэння ранішняга набажэнства, паказалася воблачка, з якога паходзіла святло, што ахапіла і асвятліла капліцу і ўсе будкі. У гэтым святле паказалася Найсвяцейшая Багародзіца Марыя, Якая трымала на руцэ Дзіця Езуса, атачаная вялікай грамадой анёлаў. І так Яна прамовіла законнікам: “Тут хвалу нашага Бога і Майго Сына, і Маё заступніцтва заўсёды будзеце мець. Гэтае месца Я выбрала Сабе як надзейны прытулак грэшным людзям”.

Усе прысутныя браты ўпалі на твары, пакорна дзякавалі Богу і Яго Найсвяцейшай Маці, што з Божай ласкі выбрала гэтае месца для хвалы свайго Сына і ратунку грэшных людзей. Такі надзвычайны выбар не быў бясплённы, бо і па сённяшні дзень гэтае месца напаўняецца Боскімі дабрадзействамі і ласкамі.

Што датычыць назвы гэтай Будскай пушчы... Калі пасля таго аб’яўлення абмяркоўвалі браты між сабой, як называць гэтае месца, настаяцель віленскага кляштара, гледзячы на будкі, над якімі нябеснае святло з’яўлялася, загадаў называць дадзенае месца Будай, бо даўней браты там сабе будкі з галля і хаткі з саломы для жылля пабудавалі, і ад тых будак і па сённяшні дзень гэтая пушча, а ад яе сённяшні кляштар і касцёл маюць назву Буда”.


1

TRAKTAT
PIERWSZY

O położeniu, początku y názwisku Pußczy y mieyscá Budzkiego.

NIżeli się co pocznie o położeniu / początku / y názwisku mieyscá Budzkiego y Pußczy / w ktorey iest cudowny Obraz Przenach: Bogárodzice záwße Panny / w Kośćiele Oycow Bernardynow / w teyże Pußczy mießkáiących / do ludzkiey wiádomośći podáwáć / záslużna rzecz rozumiałem dla iáśnieyßego rzeczy rozeznánia kożdego vwiádomić: Iż tá Pußcza dwoiákim sposobem iest od Boga ná iego chwałe poświęcona. Naprzod / iż mieysce sámo do ktorego nim przybył Obraz Pánny Przenaś: było cudownym sposobem od Bogá obráne / y łáskámi iego vprzywileiowáne / a potym względem Obrázu cudownego / zá ktorego przybyćiem hoynemi Dobrodzieystwy y łáskámi iego Boskiemi opływáć poczęło.



# Расклад пілігрымак з Віцебскай дыяцэзіі ў Будслаў

**Ужо вельмі хутка распачнуцца пілігрымкі з розных куткоў нашай Бацькаўшчыны ў Будслаў на ўрачыстасці Маці Божай Будслаўскай, якія ў гэтым годзе адбудуцца 5-6 ліпеня пад дэвізам “Каралева сем’яў, маліся за нас!”**

Прапануем расклад пешых пілігрымак і на роварах з Віцебскай дыяцэзіі:

**Браслаў – Будслаў: 30.06 – 05.07.2019**

30.06 – Браслаў – Ахрэмаўцы – Ёды;
01.07 – Ёды – Шаркаўшчына;
02.07 – Шаркаўшчына – Пятроўшчына – Мосар;
03.07 – Мосар – Варапаева;
04.07 – Варапаева – Дунілавічы – Ваўкалата;
05.07 – Ваўкалата – Ілава – Будслаў.

Адказны – **а. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** (+375 29 577 00 38).

**Віцебск – Будслаў: 29.06 – 05.07.2019**

29.06 – Віцебск – Шуміліна;
30.06 – Шуміліна – Мікалаева – Ула;
01.07 – Ула – Камень;
02.07 – Камень – Лепель;
03.07 – Лепель – Беразіно;
04.07 – Беразіно – Докшыцы;
05.07 – Докшыцы – Параф’янава – Будслаў.

Адказны – **а. Томаш Міка** (+375 29 762 02 19).

**Віцебск – Будслаў (на роварах): 02.07 – 05.07.2019**

02.07 – Віцебск (пачатак а 10.00, катэдра) – Бешанковічы;
03.07 – Бешанковічы – Лепель;
04.07 – Лепель – Бягомль;
05.07 – Бягомль – Будслаў.

Адказны – **с. Ёнаша Мровец** (+375 29 895 76 78).

**Глыбокае – Будслаў: 03.07 – 05.07.2019**

03.07 – Глыбокае – Крулеўшчына;
04.07 – Крулеўшчына – Параф’янава;
05.07 – Параф’янава – Будслаў.

Адказны – **кс. Іван Кароткін** (+375 29 819 52 57).

**Паставы – Будслаў: 03.07 – 05.07.2019**

03.07 – Паставы – Мядзел;
04.07 – Мядзел – Старыя Хабы;
05.07 – Старыя Хабы – Будслаў.

Адказны – **кс. Вадзім Прасяной** (+375 29 292 50 90).

**Бягомль – Будслаў: 03.07 – 05.07.2019**

03.07 – Бягомль – Мацееўцы;
04.07 – Мацееўцы – Заброддзе;
05.07 – Заброддзе – Будслаў.

Адказны – **а. Тадэвуш Кавальскі** (+375 29 714 85 30).

**Росіца – Будслаў: 28.06 – 05.07.2019**

28.06 – Росіца – Верхнядзвінск;
29.06 – Верхнядзвінск – Мёры;
30.06 – Мёры – Германавічы;
01.07 – Германавічы – Мнюта;
02.07 – Мнюта – Падсвілле;
03.07 – Падсвілле – Крулеўшчына;
04.07 – Крулеўшчына – Параф’янава;
05.07 – Параф’янава – Будслаў.

Адказны – **кс. Аляксандр Жарнасек** (+375 29 713 02 33).

**Далучайся!**
**Будслаў цябе чакае!**

# У вёсцы Гарадзішча Докшыцкага дэканата асвяцілі капліцу ў гонар святога Антонія Падуанскага

**Адбылося гэта ва ўспамін святога, які адзначаецца 13 чэрвеня. Асвячэнне здзейсніў Генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-прэлат Францішак Кісель. Таксама ён удзяліў сакрамант канфірмацыі 21 верніку.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Парафіяне сустрэлі святароў перад капліцай, уваход у якую быў прыгожа аздоблены пялёсткамі кветак. На ўрачыстасць прыбылі кс. Францішак Кісель – у якасці прадстаўніка біскупа Віцебскага, кс. Алег Півавар – пробашч парафіі ў Ваўкалаце, да якой належыць Гарадзішча, а таксама кс. Павел Самсонаў – пробашч з Дунілавіч, які паходзіць з Ваўкалацкай парафіі.

На самым пачатку святой Імшы ксёндз-прэлат Францішак Кісель пасля малітвы асвяціў будынак капліцы. Ён жа і цэлебраваў святую Імшу. Трэба адзначыць, што будынак храма быў цалкам запоўнены вернікамі. Шмат людзей жадала прысутнічаць на гэтай урачыстасці, нягледзячы на спякотнае надвор'е.



Слова да прысутных прамовіў кс. Павел Самсонаў. Напачатку ён адзначыў, што яму прыемна прамаўляць у сваёй роднай парафіі на гэтай двайной урачыстасці: асвячэнні капліцы і ўдзяленні сакраманту канфірмацыі. Паколькі капліца асвечаная ў гонар святога Антонія Падуанскага, успамін якога адзначаўся ў гэты дзень, святар коратка распавёў пра яго.

Далей кс. Павел заклікаў вернікаў несці Евангелле іншым людзям. І гэта не значыць літаральна хадзіць са Святым Пісаннем па хатах. Гэта можна рабіць прыкладам свайго хрысціянскага жыцця, сваімі добрымі ўчынкамі, як гэта было ўласціва святому Антонію:

– Ён сваім жыццём нёс Евангелле, ён дапамагаў бедным, ён не адкідаў чалавека ў патрэбе, ён заўсёды ішоў з дапамогай да кожнага. ...Мы таксама ў сваім жыцці павінны быць больш адкрытымі.

Святар звярнуў увагу, што ў нашым жыцці мы часта можам гадамі не размаўляць з суседзямі, пасварыўшыся праз нейкую дробязь. І пры гэтым ходзім у храм і лічым сябе вернікамі, а прабачыць іншаму чалавеку не можам. Кс. Павел нагадаў словы малітвы "Ойча наш", дзе гаворыцца: "Прабач нам правіны нашыя, як і мы прабачаем вінаватым нашым". Ён заклікаў памятаць пра гэтыя словы, задумвацца над іх сэнсам, а не проста прамаўляць іх механічна.

– Мы просім Бога: прабач нам, як і я прабачаю. Калі я прабачаю крыўду, нейкае непаразуменне, то і Бог мне прабачыць. А калі я затрымліваю, то і мне будзе затрымана, – падкрэсліў святар.

Ён заклікаў вернікаў працаваць над сваёй верай, параўнаўшы гэта з агародам: калі яго не даглядаць, то і ўраджаю не атрымаеш. А таму, каб нам атрымаць духоўны ўраджай, трэба даглядаць і сваю веру: "Трэба рабіць праполкі свайго жыцця, а гэтай праполкай з'яўляецца сакрамант споведзі".

Звяртаючыся да кандыдатаў да канфірмацыі, святар нагадаў ім пра дары Духа Святога, заслужыць якія можна толькі сваім добрым хрысціянскім жыццём:

– Калі мы хочам нешта атрымаць ад Бога, то павінны даць нешта ад сябе. А даць мы можам свае добрыя ўчынкі, свой добры настрой, свае добрыя адносіны адно да аднаго. А гэта перш за ўсё прабачэнне.

Пасля гаміліі Генеральны вікарый удзяліў сакрамант канфірмацыі падрыхтаваным для гэтага парафіянам.

На заканчэнне Імшы Людміла Кацейка ад імя ўсіх вернікаў падзякавала пробашчу парафіі кс. Алегу Півавару за яго актыўную дапамогу ў пабудове капліцы, якая была пераабсталяваная з былой калгаснай канторы. Падзяку атрымаў і ксёндз-прэлат Францішак Кісель за тое, што ён асвяціў гэты храм і ўдзяліў вернікам сакрамант канфірмацыі. Удзячнасць прысутных была выказаная і ксяндзу Паўлу Самсонаву, хору з Ваўкалаты, які сваім спевам упрыгожыў набажэнства, а таксама журналістам "Каталіцкага Весніка".

У сваю чаргу пробашч парафіі выказаў удзячнасць святарам, што ўдзельнічалі ва ўрачыстасці, усім вернікам і гасцям. Таксама ён падзякаваў святарам, якія дапамаглі ў абсталяванні капліцы. Так, алтар храму падарылі айцы-піяры з Ліды, канфесіянал капліца атрымала з касцёла святога Антонія Падуанскага ў Паставах, табернакулюм – ад парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі ў Оршы, дзе пробашчам з'яўляецца кс. Валеры Орсік. Гэта ж парафія падарыла і два кленчнікі і Крыжовую дарогу. Усе названыя рэчы раней знаходзіліся ў капліцы гэтай парафіі.

Закончылася ўрачыстасць бласлаўленнем, якое кс. Францішак удзяліў вернікам як афіцыйны прадстаўнік біскупа Віцебскага.

# У Віцебску адбылася працэсія Божага Цела

**У суботу, 1 чэрвеня, вернікі Віцебскай дыяцэзіі разам са святарамі прайшлі працэсіяй па вуліцах горада. У мерапрыемстве ўдзельнічала каля паўтысячы вернікаў.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Шэсце пачалося пасля святой Імшы ў катэдры Езуса Міласэрнага. Тут жа, у двары катэдры, быў зроблены першы алтар. Усяго, як вядома, падчас працэсіі Божага Цела ладзяцца чатыры алтары. Як адзначыў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, "гэтая працэсія ёсць сведчаннем нашай веры".

Працэсія з рэлігійнымі спевамі пад музыку духавога аркестра прайшла ад катэдры да касцёла Святога Духа. Па шляху былі зладжаныя два алтары, якія падрыхтавалі віцебскія грэка-каталікі. Чацвёрты алтар падрыхтавалі каля касцёла Святога Духа. Святочную калону суправаджалі супрацоўнікі міліцыі і медыкі. Як адзначыў канцлер Віцебскай дыяцэзіі, арганізатары працэсіі не аплочвалі паслугі міліцыі, медыкаў і камунальнікаў. Гэта стала магчымым у выніку перамоваў з гарадскімі ўладамі.



# Па чарзе.

## Як праваслаўныя і католікі моляцца ў адной памежнай капліцы



**У вёсцы Ракі на беларуска-літоўскай мяжы праваслаўныя і католікі ад 1995 года моляцца ў адной капліцы. Кожныя займаюць сваю частку будынка, паведамляе Радыё Свабода.**

Тут два крыжы, два алтары, дзве спавядальні. У ксяндза і бацюшкі – асобныя шафы са строямі. І моляцца тут па чарзе. Мы наведалі капліцу, калі тут праходзілі дзве службы запар.

Сёння вёска Ракі ўваходзіць у Варэнскі раён Алітускага павета Літвы. Але так было не заўсёды. Гістарычна Ракі ўваходзілі ў Лідскі павет. Да Ліды ад вёскі – 50 км, а да цяперашняга павятовага цэнтра Алітуса – 85.

Ад Беларусі Ракі адрэзалі пасля 1940 года, калі СССР акупаваў краіны Балтыі. Спачатку перадалі Віленскі павет, а потым – курорт Друскенікі, выступ Дзівінішкі і яшчэ некалькі дзясяткаў вёсак уздоўж мяжы. У тым ліку і Ракі.



“Пасля вайны зрабілі тут мяжу і аднеслі нас да Літвы. А перад вайной – гміна Забалаць, павет Ліда. Беларусь была”, – кажа Валяр’ян Утаўка з Ракоў. Але найбольш верагодна, што Ракі сталі часткай Літвы яшчэ ў 1940 годзе.

Пра былы адміністрацыйны падзел нагадвае парафіяльнае раздзяленне. Як і ў даваенныя часы, мясцовыя католікі належылі да парафіі ў беларускай вёсцы Забалаць, а праваслаўныя – да Першамайска (так гэтае паселішча завецца з 1961 года, раней – Сабакінцы. – РС). Там жа былі і могілкі, дзе хавалі ўсіх памерлых з Ракоў.

“Пакуль не зрабілі мытню, большасць там і абівалiся, у Беларусі. Магазіны ды касцёлы, магілкі ў Забалаці”, – кажа Гэлена Гой.

Тады жыхары Ракоў стварылі сабе аўтаномію. Прынамсі, рэлігійную. У 1995 годзе былую пачатковую школу перарабілі пад капліцу. Адну на дзве канфесіі. Левая частка з лаўкамі – каталіцкая, правая без лавак – праваслаўная.

Кожная супольнасць мае свой асобны алтар, свае абразы і спавядальні. Настаўніцкі пакой стаў закрыстыяй, дзе ў ксяндза і бацюшкі асобныя сталы і асобныя месцы для святарскіх строяў.

“Разам рабілі: і праваслаўныя, і католікі. Праваслаўныя рабілі сваё, а мы ўжо свой бок ладзілі”, – кажа 78-гадовая Крысціна Утаўка. 28 красавіка яна прыйшла прыбіраць у капліцы перад прыездам ксяндза.

Пазней на ўскрайку вёскі сельсавет выдзеліў зямлю пад могілкі. Яны зусім малыя і таксама падзеленыя на дзве часткі. Злева – каталіцкія, справа – праваслаўныя.

“А як зрабілі мытню, зрабілі і могілкі, тут ужо хаваемся. І мы, і праваслаўныя. Можна труну перавезці і ў Беларусь, але туду, праз Бенякони (85 км ад Ракоў. – РС). Трэба ад урача мець даведку, што не заразны быў”, – кажа Гэлена Гой.

Вялікдзень – рэдкі час, калі ў ракоўскую капліцу ў адзін дзень прыходзяць і католікі, і праваслаўныя. Каталіцкія службы тут праводзіць ксёндз з райцэнтра Варэны кожную суботу. А вось бацюшка да праваслаўных прыязджае з Вільні рэдка. Звычайна перад Раством і Вялікаднем, а таксама адпяваць памерлых.

28 красавіка а 16.00 прыбывае ксёндз Альмандас. У капліцы каля дзесяці чалавек. Парафіяне кажуць, што звычайна прыходзіць болей. Імша, камунія, збор ахвяраванняў, і ўжо праз гадзіну католікі сыходзяць, не замыкаючы капліцы.

Да 17-й гадзіны пачынаюць падцягвацца праваслаўныя. Яны прыйшлі асвяціць ежу перад Вялікаднем. Служба ў іх даўжэйшая. Хто сыходзіць апошнім, заносіць ключы каталічцы Валянціне, бо тая жыве бліжэй за ўсіх да капліцы.

“Бацюшка і ксёндз дамаўляюцца паміж сабой, хто ў які час прыедзе, каб адзін другому не замінаў маліцца”, – кажа Крысціна Утаўка.

Да праваслаўных у Ракі прыязджае ўжо трэці па ліку святар. Першы быў з беларускага Першамайска. Потым ездзіў айцец Уладзімір з Друскенік. Цяпер яго сын, айцец Дзіянісій з Вільні.

Пасля службы айцец Дзіянісій распавядае, што царква не супраць таго, каб маліцца ў адным будынку. Але гэта нельга разглядаць як экуменізм у асобна ўзятай вёсцы. Католікі і праваслаўныя, па яго словах, проста вымушаныя маліцца пад адным дахам.

“Мы строга прытрымліваемся сваіх традыцый, і таму зрабілі сабе асобны алтар”, – сказаў айцец Дзіянісій.

Паводле яго, падобным чынам моляцца каталікі і праваслаўныя ў Алітусе – цэнтры павета. У 70-тысячным горадзе няма царквы, і мясцовым праваслаўным выдзелілі месца для свайго алтара і прастола ў адным з гарадскіх касцёлаў.

“Ой, тут хораша было раней, пакуль гэтую мяжу не паставілі, пакуль не разлучыліся, – кажа Ніна Голуб. – Аўтобусы хадзілі са Шчучына ў Варэну, з Гродна ў Каўнас. Хацелі б, каб не было мяжы, але гэта не наша права”.

Большасць пунктаў спрошчанага пропуску на беларуска-літоўскай мяжы адкрываецца толькі на вялікія рэлігійныя святы. А Ракам яшчэ пашчасціла, што перасекчы мяжу тут можна штотыдзень: у пятніцу, суботу і нядзелю. Праўда, трапіць у Беларусь можна, толькі маючы візу.

*Поўную версію рэпартажу можна прачытаць на* ***svaboda.org***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Рух “Маргарытка”** *(Задарожжа)*, **Вольга Навумёнак** *(Глыбокае)*, **Людміла Жданович** *(Глыбокае)*, **Зарана Высоцкая** *(Глыбокае)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Астаноўка Л.А.** *(Атокі)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Галіна Цігіна** *(Камарова)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Наталля Гаўрыльчык** *(Падсвілле)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Алексніна З.В.** *(Браслаў)*, **Ганна Кірплюк** *(Варапаева)*, **Галіна Сіманёнак** *(Паставы)*, **Жусель А.К.** *(Петкунішкі)*, **Эміліся Бугаева** *(Лынтупы)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Руткоўская І.К.** *(Радзюкі)*, **Зінаіда Жук** *(Радзюкі)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Галіна Вайцяховіч** *(Смаргонь)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **вернікі з Гарадзішча**, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Аліна Качан** *(Станулева)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Соф’я Чырвінская** *(Язні)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Даната Пачкоўская (Савуткі)**, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Феакцістава Л.М.** *(Камарова)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Бенэдзікта Баранава** *(Двор Пліна)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***

# У ваколіцах Глыбокага ўшанавалі памяць святароў-мучанікаў

**Ксяндзы маліліся не толькі за ахвяраў вайны, але і за катаў, якія расстрэльвалі людзей.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Святая Імша адправілялася з нагоды дваццацігоддзя беатыфікацыі святым Папам Янам Паўлам ІІ 108 мучанікаў Другой сусветнай вайны. Адбылося гэта ў Варшаве 13 чэрвеня 1999 года. Сярод гэтых блаславёных ёсць і тры святары, якія былі расстраляныя ў Барку пад Глыбокім 4 сакавіка 1942 года. Гэта ксяндзы Мечыслаў Багаткевіч, Станіслаў Пыртак і Уладзіслаў Мацькователь.

На набажэнства, нягледзячы на спякотнае надвор'е і працоўны дзень, прыйшло каля сямідзесяці вернікаў. Святую Імшу цэлебраваў канцлер Віцебскай дыяцэзіі ксёндз Віктар Місевіч, які адмыслова прыбыў на гэту ўрачыстасць. У святой Імшы ўдзельнічалі таксама пробашч глыбоцкай парафіі Святой Тройцы ксёндз Мікалай Ціхановіч і вікарый гэтай парафіі ксёндз Іван Кароткін.

На самым пачатку Імшы кс. Віктар падкрэсліў, што малітва будзе адбывацца як у інтэнцыі святароў-мучанікаў, так і за тых, хто быў у адносінах да іх катам. "Езус Хрыстус заклікаў нас маліцца ў першую чаргу за нашых ворагаў, – адзначыў святар, – таму мы памолімся і за карнікаў, у каторых затуманіўся розум, і за іх ахвяраў, якіх вельмі шмат пахавана ў безыменных магілах на гэтым месцы".

У сваім слове да вернікаў ксёндз Віктар нагадаў, што роўна дваццаць гадоў таму Папа Ян Павел ІІ абвясціў 108 новых блаславёных часоў Другой сусветнай вайны. Сярод іх былі і тры святары, што загінулі ў 1942 годзе пад Глыбокім ад рук нацысцкіх карнікаў.

Усяго ў гэтым спісе – тры біскупы-мучанікі, дваццаць шэсць манахаў, што былі святарамі, тры клерыкі, сем братоў законных, восем законных сясцёр і дзевяць свецкіх асобаў. "Такі вось сумны плён прынесла нам вайна", – адзначыў святар.

– Часта так бывае, што не адна асоба, а ўвесь народ можа быць апанаваны злым духам праз палітыкаў, праз нейкія людскія справы, праз ідэалогію. І тады адбываюцца такія страшныя рэчы, як Другая сусветная вайна.

Ксёндз Віктар коратка ўзгадаў біяграфіі блаславёных святароў. Мечыслаў Багаткевіч нарадзіўся 1 студзеня 1904 года ў маёнтку Крыкалы каля Дунілавічаў. Пачатковую адукацыю атрымаў у Сітцах, пасля вучыўся ў Будславе. Скончыў Пінскую духоўную семінарыю. Пасля пачатку вайны працаваў пробашчам у Пеліканах, а ўвосень 1941 года накіраваўся ў Дрысу (зараз Верхнядзвінск). Там доўгі час не было святара, бо парафія знаходзілася ва ўсходняй Беларусі, дзе шмат гадоў да гэтага ішла ваяўнічая атэізацыя. Там святар распачаў актыўную душпастырскую працу, якая не спадабалася акупантам. 16 студзеня 1942 года яго арыштавалі і зняволілі ў браслаўскай турме. А 4 сакавіка ён быў расстраляны пад Глыбокім. Святар меў толькі 38 гадоў.

Уладзіслаў Мацькователь быў яшчэ маладзейшы. Ён меў толькі 31 год, калі аддаў сваё жыццё за веру. Скончыў семінарыю ў Вільні і працаваў у Іказні. Арыштаваны і расстраляны разам з іншымі ксяндзамі.

Трэці святар – Станіслаў Пыртак – быў зусім малады, меў толькі 28 гадоў, калі загінуў. Ён таксама скончыў семінарыю ў Вільні, святарскае пасвячэнне прыняў ужо ў вайну, у 1940 годзе. Працаваў вікарыем у Іказні, дзе быў арыштаваны разам са сваім пробашчам ксяндзом Уладзіславам, з якім і раздзяліў свой лёс. Перад смерцю ён усклікнуў: "Няхай жыве Хрыстус валадар!"

Далей кс. Віктар у сваёй гаміліі звярнуў увагу, што Каталіцкі Касцёл не культывуе культ смерці, як зараз часта робіцца ў сённяшнім свеце. Гэта і аўтаназія, і аборты, і продаж розных забавак у выглядзе ведзьмаў, чарапоў і інш. "Але мы як вернікі павінны культываваць культ жыцця, а не культ смерці", – падкрэсліў святар. Ён адзначыў, што Божае валадарства – гэта перш за ўсё праўда:

– Праўда Божая павінна выйсці на свет, бо яна аздараўляе. А любая хлусня робіць раны на целе грамадства і ўсяго народа. Таму мы павінны прагнуць гэтай праўды. Ужо даўно прыйшла пара адчыніць закрытыя архівы, каб гэту праўду ведаць.

Няхай у Глыбокім больш не адбываюцца такія страшныя падзеі, а ўрочышча Барок хай дапамагае нам памятаць пра гэта, – сказаў напрыканцы гаміліі святар.

А закончылася святая Імша супольным спевам хрысціянскага гімну "Магутны Божа".



# Святыя Пётр і Павел

**Гісторыя Пятра і Паўла – гісторыя разнастайнасці чалавечых характараў і шляхоў, якія вядуць да Бога. У новым тэсце "Каталіцкага Весніка" прапануем Вам праверыць, ці добра Вы знаёмыя з жыццём двух улюбёных апосталаў Хрыста.**

**1** Чаму ўрачыстасць святых апосталаў Пятра і Паўла святкуецца ў адзін дзень?



**А.** Яны пахаваныя ў адной грабніцы.
**Б.** Яны былі братамі.
**В.** Яны прынялі пакутніцкую смерць у гэты дзень.

**2** Якое імя да спаткання з Хрыстом меў апостал Пётр?



**А.** Саул.
**Б.** Сымон.
**В.** Акіла.

**3** У чым удзельнічаў апостал Павел у юнацтве?



**А.** У забойстве язычнікаў.
**Б.** У ганеннях на хрысціян.
**В.** Ва ўкрыванні хрысціянаў ад ганіцеляў.

**4** У якім горадзе знайшлі дом апостала Пятра?



**А.** У Назарэце.
**Б.** У Кафарнауме.
**В.** У Ерыхоне.

**5** Якой смерцю да Госпада адышоў апостал Пётр?



**А.** Памёр сваёй смерцю.
**Б.** Яму адсяклі мячом галаву.
**В.** Быў укрыжаваны на перавернутым крыжы, уніз галавой.

**6** Чаму юдэі не маглі забіць Паўла адразу пасля суда?



**А.** Таму што ў яго было рымскае грамадзянства.
**Б.** Таму што Анёл Пана не дазволіў ім зрабіць гэтага.
**В.** Паўла выкупілі за грошы яго сябры.

**7** Хто з гэтых двух апосталаў выгнаў духа вяшчунства з апантанай служанкі? (Дзеі 16, 16-18)



**А.** Апостал Пётр.
**Б.** Апостал Павел.
**В.** Ніхто з гэтых двух апосталаў. Гэта зрабіў апостал Тамаш.

**8** Адкажыце правільна, хто аўтар гэтых словаў: "Ці ў людзей я цяпер шукаю ўпадабання, ці ў Бога? Ці людзям дагаджаць стараюся? Калі б я і дагэтуль дагаджаў людзям, дык не быў бы рабом Хрыстовым" (Гал.1,10)?



**А.** Апостал Пётр.
**Б.** Апостал Павел.
**В.** Апостал Якуб.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 12**

# Каляндар на ліпень

**2 ліпеня – свята Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай.**



У апошнія гады культ Маці Божай Будслаўскай, Якую называюць Апякункай Беларусі, распаўсюдзіўся па ўсёй нашай краіне. Цэнтр святкавання – невялікая вёска на поўначы Мінскай вобласці, назва якой – Будслаў – вядомая сёння і ў Беларусі, і за яе межамі. Там знаходзіцца Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Будслаўскі касцёл, адзін з самых прыгожых і вялікіх на нашай зямлі, быў пабудаваны ў XVIII стагоддзі і з'яўляецца малой базілікай. Кожны год у Будслаў ідуць і едуць тысячы пілігрымаў, каб ушанаваць Найсвяцейшую Панну Марыю, папрасіць праз Яе заступніцтва, асаблівых ласкаў Божых і прыняць удзел ва ўрачыстым Будслаўскім фэсце.

**3 ліпеня – Дзень святога Тамаша, апостала.**



Святы Тамаш, празваны Дыдым (Блізня), да паклікання ў супольнасць апосталаў быў рыбаком у Галілеі. Калі Езус у Дзень Уваскрасення з'явіўся апосталам, Тамаша сярод іх не было. Ён спачатку не паверыў у Змёртвыхпаўстанне, а таму яго часта называюць "Тамаш, які не верыць". Падчас наступнага з'яўлення ўваскрослы Збаўца звярнуўся да Тамаша, каб той на ўласныя вочы пераканаўся, што перад ім – сам Езус, на што Тамаш усклікнуў: "Пан мой і Бог мой!" Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал накіраваўся ў місію ў Персію і Індыю, дзе, паводле падання, сустрэўся з трыма каралямі, ахрысціў іх і прызначыў біскупамі. Каля 72 г. прыняў мучаніцкую смерць у Індыі: быў забіты паганцамі мячом або дзідаю. Ён лічыцца апекуном горада Рыгі, а таксама архітэктараў, будаўнікоў і геолагаў. Яго заступніцтва просяць, молячыся пра шчаслівае сужэнства.

**11 ліпеня – Дзень святога Бэнэдыкта, абата, апекуна Еўропы.**



Святы Бэнэдыкт – айцец манаства на хрысціянскім Захадзе – нарадзіўся каля 480 г. у Нурсіі (Паўднёвая Італія) і паходзіў з багатай сям'і. Пакінуўшы вучобу ў Рыме, стаў жыць пустэльнікам. Праз пэўны час вакол яго сабралася шмат іншых манахаў. Каля 529 г. ён разам з паплечнікамі заснаваў на поўдзень ад Рыма славуты кляштар Монтэ-Касіна. Асноўным правілам манаскага жыцця ў ім былі словы "Ora et labora" ("Маліся і працуй"), якія сталі дэвізам ордэна бэнэдыктынцаў. У Монтэ-Касіна Бэнэдыкт напісаў статут "Ordo Sancti Benedicti", які стаў асноваю для большасці манаскіх супольнасцяў Захаду. Заснаваны ім ордэн бэнэдыктынцаў на працягу стагоддзяў быў найбольш значным духоўным, культурным і навуковым асяродкам Еўропы. У 590 г. бэнэдыктынец упершыню стаў Папам. Гэта быў святы Грыгорый Вялікі – славуты касцельны рэфарматар, які пакінуў найбольш звестак пра святога Бэнэдыкта (і пазней вельмі часта на Пасадзе святога Пятра знаходзіліся менавіта бэнэдыктынцы). Святы Бэнэдыкт памёр 21 сакавіка 547 г. і быў пахаваны ў Монтэ-Касіна каля магілы сваёй сястры-блізніцы святой Схаластыкі. Святы з'яўляецца апекуном Еўропы і ўсяго Захаду, а таксама настаўнікаў і школьнікаў.

**16 ліпеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармель (Маці Божай Шкаплерной).**



У XIV ст. на гары Кармель у Палесціне існаваў ордэн, чальцы якога, духоўныя сыны прарока Іллі, называлі сябе братамі Найсвяцейшай Панны Марыі. Кармеліты вялі жыццё, адданае малітве, працы і пакаянню, захоўваючы цноты чысціні, убоства і паслухмянасці. У канцы XIII стагоддзя ў сувязі з праследаваннямі з боку мусульманаў, рэлігійнымі войнамі з туркамі і заняпадам Касцёла на Святой Зямлі, законнікі былі вымушаныя выехаць у Еўропу. Тут, у новым асяроддзі, перад маловядомым законам узнікла пагроза роспуску. У такім цяжкім становішчы генерал закона Сымон Сток пачаў прасіць Марыю, каб Яна захавала прысвечаны Ёй закон. У адказ на шчырую малітву Марыя аб'явілася святому Сымону ў ноч з 15 на 16 ліпеня 1251 г. У атачэнні анёлаў, указваючы на шкаплер, Яна асвяціла яго знакам Сваёй Матчынай апекі, сказаўшы: "Гэта будзе прывілей для цябе і для ўсіх кармелітаў: хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага". Пасля таго аб'яўлення зніклі ўсе перашкоды і закон пачаў пашырацца па ўсёй Еўропе. Праз 70 гадоў Маці Божая аб'явілася Святому Айцу Яну XXII і, пацвярджаючы папярэднія прывілеі (асаблівую апеку ў зямным жыцці і пазбаўленне ад агню пякельнага), абяцала, што кожны, хто ў момант смерці будзе мець на сабе Яе шкаплер, у першую суботу пасля смерці будзе выведзены з чысцца ў неба.

**22 ліпеня – свята св. Марыі Магдалены**



Са старонак Бібліі вядома, што Марыя прыйшла з Магдалы – "рыбнай вежы" на Галілейскім моры, гэта прыкладна 4 км на паўночы захад ад Тыберыі. Вядома, што Езус выгнаў з яе сем злых духаў (Мк 16, 9, Лк 8, 2). Ад гэтага моманту яна становіцца вернай спадарожніцай Хрыста і клапоціцца разам з іншымі жанчынамі пра людзей, якія ідуць за Езусам. Усе чатыры евангелісты сведчаць пра тое, што Марыя Магдалена прысутнічала пры смерці Хрыста і падчас Яго пахавання. Заходняя традыцыя атаясамлівае Магдалену з блудніцай, якую Хрыстос выратаваў ад збіцця камянямі і якая здзейсніла вельмі кранальны ўчынак: калі Езус абедаў у аднаго з фарысеяў, яна прыпала да ног Ягоных, стала ліць на іх каштоўны духмяны алей, абмываць іх слязьмі і выціраць сваімі валасамі. Евангелле змяшчае тры згадкі пра гэты эпізод. Прынамсі, адзін з іх прыпісваецца Марыі Магдалене. Няма ўпэўненасці ў тым, што яна была распусніцай, але дакладна вядома, што яна была сведкай уваскрасення Хрыста.

Марыя Магдалена па просьбе Езуса скіравалася да апосталаў, каб абвясціць ім, што Ён уваскрос. Пазней яны сталі пераказваць гэтую праўду іншым. Таму слушна, што яна была названа "апосталкай апосталаў". 22 ліпеня Каталіцкі Касцёл адзначае дзень Марыі Магдалены як свята. Яшчэ да 2016 г. гэта быў абавязковы ўспамін. Змена адбылася па жаданні Папы Францішка, які хацеў такім чынам падкрэсліць ролю не толькі гэтай святой жанчыны, якая першая перадала свету вестку пра ўваскрасенне Пана Езуса, але і ролю ўсіх жанчын у Касцёле.

**26 ліпеня – успамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі.**



Ушанаванне святога Яўхіма і святой Ганны распаўсюджанае ва ўсім Касцёле, як на Усходзе, так і на Захадзе. Па меры таго, як пашыраўся культ Маці Божай, узрастала таксама паўсюднае шанаванне яе бацькоў. Ужо ў IV–V стст. у Ерусаліме пры былой купальні Віфезда была пабудаваная капліца, прысвечаная святым Яўхіму і Ганне. Тут нават, згодна з паданнем, павінна размяшчацца іх грабніца. Іншым месцам іх пахавання лічаць Алейную гару.

Літургічнае шанаванне бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі паўстала спачатку на Усходзе. Свята ўвёў у 710 г. імператар Юстыніян II пад назвай "Зачацце св. Ганны". Яно святкавалася ў розныя дні альбо разам са святам св. Яўхіма. На Захадзе яно стала адзначацца пазней. У Неапалі свята вядомае з X ст. Папа Урбан VI у буле «Splendor æternæ gloriæ» ад 21 чэрвеня 1378 г. дазволіў спраўляць гэтую ўрачыстасць у Англіі. Папа Юлій II у 1522 г. распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл і прызначыў датай 20 сакавіка. Аднак Папа Павел V у 1568 адмяніў гэтае свята, спаслаўшыся на тое, што пра бацькоў Багародзіцы нічога не паведамляецца ў кнігах Святога Пісання. Тым не менш, перамагло меркаванне, што гэтыя бацькі існавалі і што ім належыць асаблівая пашана. Таму Папа Грыгорый XIII аднавіў свята (1584) і прызначыў для яго дзень 26 ліпеня. Папа св. Пій X у 1911 г. увёў асобны дзень ушанавання св. Яўхіма, прызначыўшы яго на 16 жніўня. Дзень св. Ганны працягваў адзначацца 26 ліпеня. Але літургічная рэформа 1969 г. зноў злучыла разам іх імёны ў дзень 26 ліпеня.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхал Татарэнка** *(Лужкі)*;

**3 ліпеня** – імяніны адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**5 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **а. Шыдлоўскі Уладзімір SDS** *(Браслаў)*; дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*;

**7 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**10 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**14 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**15 ліпеня** – імяніны адзначаюць **а. Шыдлоўскі Уладзімір SDS** *(Браслаў)*, **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*;

**16 ліпеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*;

**17 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*;

**20 ліпеня** – імяніны адзначае **а. Чэслаў Курэчка MIC** *(Расіца)*;

**21 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**22 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*;

**25 ліпеня** – імяніны адзначаюць **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*, **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*, дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*;

**28 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Анджэй Бульчак** *(Паставы)*, імяніны адзначае **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*;

**30 ліпеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***

# Што кажа Касцёл пра сучасную моду?

*"Добры дзень. Адкажыце, калі ласка, на пытанне: як Касцёл ставіцца да сучаснай моды ў адзенні, ці ёсць у ім сэнс з пункту гледжання Касцёла? А таксама, якія межы ў вопратцы ёсць, напрыклад, пры знаходжанні ў святыні і ўвогуле, ці рэгламентуе, ці дае нейкія рэкамендацыі Касцёл у плане сучаснай моды? Было б вельмі цікава ведаць. Дзякуй вялікі!*
*Максім".*

– Паважаны Максім! Дзякуй Вам за пытанне, якое, на першы погляд, можа здавацца рэдкім, аднак у рознай ступені датычыць амаль усіх. Яно закранае маральнае жыццё стваральнікаў моды, жанчын і мужчын, якія з'яўляюцца мадэлямі, ды ўсіх, хто назірае за модай і карыстаецца ёй. Паміж чалавекам і адзеннем існуе цесная сувязь. Тое, што мы носім, становіцца ў нейкай ступені часткай нашага "я" і сведчыць пра нас ды наш характар і самасвядомасць.

### Касцёл і мода

У Беларускай энцыклапедыі чытаем, што мода – гэта непрацяглае панаванне пэўнага густу ў якой-небудзь сферы жыцця або культуры, а таксама змена ўзораў адзення на працягу адносна кароткага прамежку часу. Кожны чалавек нейкім чынам звязаны з модай, і хрысціяне тут не выключэнне. У цэлым можна сказаць, што мода, падобна як і літаратура, мастацтва, кінематаграфія, музыка, культура ці любая творчасць, з'яўляецца носьбітам каштоўнасцей, дзякуючы якім чалавечая асоба можа годна жыць і развівацца. Мы ведаем, канешне, што згаданыя сферы чалавечай дзейнасці могуць распаўсюджваць антыкаштоўнасці, што часам, на жаль, з болем назіраем. У найбольш шырокім значэнні мода ў сферы адзення мае найчасцей утылітарны характар і служыць чалавеку.

Паколькі з модай мы сустракаемся штодня, то Касцёл, які з'яўляецца супольнасцю ўсіх вернікаў, таксама не застаецца па-за яе ўздзеяннем. Падаецца нават слушным сцвярджэнне, што менавіта ў Касцёле заўсёды было месца для моды, падобна як для мастацтва ды наогул культуры. Дастаткова паглядзець на літургічныя шаты, мэтаю якіх ёсць паказаць веліч Бога і праславіць Яго. Беручы пад увагу той факт, што іх форма, выгляд і спосаб выканання змяняюцца на працягу гісторыі, можна без сумневу сказаць, што гэта пэўнага кшталту мода. Адзенне жанчын і мужчын, якія належаць да інстытутаў кансэкраванага жыцця ці духоўных асобаў, гэта, на мой погляд, таксама праяўленне моды. Безумоўна, у выпадку габітаў, сутаны ці гэтак званага кароткага строю святароў няма значнай зменлівасці, аднак калі б можна было ўявіць паказ калекцыі касцельнага адзення, то ён не прайшоў бы без рэзанансу. Зрэшты, такія паказы адбываюцца ў розных краінах з нагоды выставаў-кірмашоў абсталявання касцёлаў і рэлігійнага мастацтва.

Згісторыі ведаем, што людзі заўсёды стараліся асабліва ўрачыста і прыгожа апранацца для ўдзелу ў святой Імшы ці набажэнствах, таму можам сцвярджаць, што ў свой час менавіта касцёлы былі тымі месцамі, дзе мы маглі ўбачыць спалучэнне прыгажосці, функцыянальнасці і сціпласці ў форме адзення. Такім чынам, мода не чужая рэчаіснасць у жыцці Касцёла.

### Маральная ацэнка моды

Стваральнікам моды і яе адрасатам з'яўляецца чалавек, таму яго дзейнасць у гэтай сферы мае таксама маральны характар і падлягае ацэнцы. Усё, што мы робім свядома і добраахвотна, можа быць добрым, дрэнным або нейтральным. Маральная вартасць нашых учынкаў залежыць ад іх прадмету (матэрыі), мэты і акалічнасцей. Ёсць учынкі па прадмеце добрыя, дрэнныя і нейтральныя. Іх маральную вартасць могуць змяніць як мэта, так і акалічнасці. Напрыклад, дапамога бліжняму – па прадмеце добры чын, аднак яго вартасць можа быць зменшана або знішчана жаданнем паказацца ці спадабацца камусьці, каб пазней яго выкарыстаць у асабістых мэтах. Падобным чынам можна паглядзець на малітву. Сам Езус асудзіў пабожныя чыны крывадушнікаў, якія іх выконвалі, каб паказацца людзям (пар. Мц 6, 5). Правілы ацэнкі вартасці чалавечых чыноў, якія бяруць пад увагу прадмет, мэту і акалічнасці, з'яўляюцца важнай дапамогай у жыцці чалавека.

Адзенне выказвае і раскрывае шматлікія аспекты чалавечай асобы, звязвае з каранямі, а часта таксама з традыцыяй. Для верніка мода і асабісты стыль павінны адлюстроўвацьягоўнутраную прыгажосць, крыніцай якой ёсць Бог. Стваральнікі, распрацоўшчыкі моды, а таксама вытворцы адзення з'яўляюцца свайго кшталту супрацоўнікамі Бога і служаць чалавечай супольнасці сваімі талентамі, здольнасцямі, сумленнасцю, прафесіяналізмам і праведнасцю. Дзеля плённага выканання службовай ролі яны павінны кіравацца праўдзівым і праведным сумленнем, мецъ і развіваць адпаведныя цноты, а таксама кіравацца любоўю да бліжняга і прынцыпамі агульнага дабра. Для тых, хто верыць у Бога адзінага ў Тройцы, – гэта хрысціянская логіка, а для іншых – гуманнасць. Людзі Касцёла падтрымліваюць такую моду, якая не зводзіць чалавечую асобу толькі да цялеснага вымярэння, але дапамагае ёй пацвярджаць і развіваць годнасць дзіцяці Божага. Паколькі Касцёл як Містычнае Цела Хрыста, г. зн. супольнасць усіх вернікаў – свецкіх, духоўных і кансэкраваных – цалкам удзельнічае ў грамадскім жыцці, то і павінен браць на сябе адказнасць за ўсе яго вымярэнні. Такім чынам, вернікі, асабліва свецкія, пакліканыя да дзейнасці ў сферы моды, праз якую могуць выражаць сябе як вестуны Евангелля.

> **"Са свайго дзяцінства памятаю, як з бацькамі мы рыхтаваліся да касцёла. Гэта быў свайго кшталту рытуал, які выражаўся ўзнёслым настроем і выбарам адпаведнага адзення"**

Мода, як і іншыя праяўленні чалавечай дзейнасці, падлягае маральнай ацэнцы, аднак не ў агульнасці, а ў канкрэтным напрамку і прадмеце. Як можа быць немаральны мастацкі твор, кніга або фільм, таксама можна сустрэць немаральную моду, што ў сваю чаргу не значыць, быццам усё там дрэннае. Чалавек атрымаў ад Бога розум, свабодную волю і здольнасць распазнаць, што добрае і карыснае. Ахрышчаныя надзелены таксама дарамі Духа Святога, Які дапамагае ім здзяйсняць правільныя выбары. Ва ўсім трэба кіравацца "ўстрыманасцю, каторая дазваляе перамагчы імкненне да прыемнасцяў, забяспечвае перавагу волі над інстынктамі і робіць здольным да захавання раўнавагі ў карыстанні створанымі дабротамі" (Кампендый Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, 383). Калі хтосьці грашыць у сферы моды, то павінен імкнуцца да навяртання, асабліва дзякуючы сакраманту споведзі.



Варта яшчэ ўзгадаць пра цноту сарамлівасці, пра якую, можа, замала гаворыцца, аднак яна вельмі важная, бо дадзена Богам, каб ахоўваць інтымнасць чалавечай асобы. Адным з элементаў сарамлівасці ёсць адмова раскрываць тое, што павінна заставацца схаваным. Яна кіруе, заахвочвае выбар адзення, адпаведны стыль жыцця і дапамагае супрацьстаяць ціску моды і ідэалогій, якія парушаюць годнасць чалавека (Пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 2521).

### Адзенне ў касцёле

Трэба распачаць з адказу на пытанне, чым ёсць касцёл і чаму туды ходзім? Калі святыню называем домам Пана Бога, у якім удзельнічаем у святой Імшы ды іншых набажэнствах, то мы разумеем, што гэта асаблівае месца, дзе не ўсё можна. Са свайго дзяцінства памятаю, як з бацькамі мы рыхтаваліся да касцёла. Гэта быў свайго кшталту рытуал, які выражаўся ўзнёслым настроем і выбарам адпаведнага адзення. Калі аднойчы я спытаў, ці павінен апранаць белую кашулю, то атрымаў адказ: ***дык мы ідзём на сустрэчу з Богам! Нельга абы-як апранацца!*** Менавіта разуменне і пачуццё святасці касцёла, у якім жыве Бог, вызначае форму адзення, а тая, у сваю чаргу, можа дапамагчы ў перажыцці сустрэчы з Тым, пра Каго ведаем, што Ён нас любіць. Калі мы лічым Бога сваім Панам, то апранаемся на спатканне з Ім "адпаведна са статусам". Неабходна тут памятаць, што адзенне – гэта таксама і спосаб адносін з іншымі.

> **"адзенне – гэта таксама і спосаб адносін з іншымі"**

Прыпамінаецца сцэна са старой камедыі, якая паказвае сутнасць падобных стасункаў у касцёле. На словы ксяндза: ***"Не бачу цябе ў касцёле"***, старэйшы мужчына кажа: ***"Гэта праз сучасную моду не хаджу, каб не зграшыць"***. У некаторых парафіях існуюць практычныя рэкамендацыі адносна адзення, якія змяшчаюць на ілюстрацыях пры ўваходзе ў святыню, аднак няма прынцыпаў, распрацаваных для ўсяго Касцёла ў нашай краіне. Касцёл пакідае вернікам і ўсім наведвальнікам святыняў свабоду, спадзеючыся на іх адказнасць і мудрасць.

Можа быць цікавым для нашых чытачоў стаўленне святога айца Піа да гэтай справы. Ён не ўспрымаў нясціплае адзенне, а нават адсылаў ад канфесіянала "неадпаведна" апранутых. Адказ на пытанне Максіма хачу закончыць словамі, якія Маці Божая мела сказаць святой Гіяцынце ў Фаціме пра грахі, каторыя цягнуць найбольш душаў у пекла. Марыя паказала на грахі супраць чысціні, а таксама моды, якія прыдумляюць, каб абражаць Бога. Фацімская Пані запэўніла, што тыя, хто служыць Богу, не паддадуцца гэтым модам.

*З павагай,*
***а. Аркадзь Куляха OCD***

## Хвала Хрысту!

*Ваша Эксцэленцыя, паважаны* ***біскуп Алег Буткевіч!*** *Віншуем Вас з чарговай гадавінай святарскага пасвячэння! Жадаем Вам заўсёднай Божай апекі ва ўсіх справах і пачынаннях на карысць роднай дыяцэзіі!*

*Дзякуем за самаадданую працу, за Вашу добразычлівасць, за прыветлівую ўсмешку, за добрыя словы і змястоўныя казанні!*

*Няхай Анёл-ахоўнік заўжды чувае над Вамі, хай Усемагутны Бог, Які ўказаў Вам дарогу жыцця, шчодра ўзнагародзіць за ўсе малітвы! Ваша здароўе няхай будзе моцным, а ў сэрцы хай паселяцца спакой і дабрыня! Няхай Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца!*

***З павагай і малітвай, вернікі касцёла Святой Тройцы ў Друі***

## Хвала Хрысту!

*29 мая адзначыў 15-гадовы юбілей святарскага пасвячэння наш пробашч* ***айцец Яраслаў Банасяк****.*

*З сардэчнай цеплынёй і малітоўнай памяццю мы віншуем айца Яраслава і жадаем Божай ласкі на кожны дзень, моцнага здароўя, шмат сіл і вытрымкі ў душпастырскай працы!*

*Просім: "Добры Божа, захавай незабруджанымі яго намашчаныя далоні, якія штодзённа дакранаюцца да Твайго святога Цела, захавай чыстымі яго вусны, якія акрапляюцца Тваёй Найдаражэйшай крывёю!"*

***З павагай і малітвай, вернікі Удзелаўскай парафіі***

## Паважаны ксёндз Эдвард Нарадоўскі!



*Віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам на кожны дзень апекі Маці Божай, моцнага здароўя, душэўнага супакою, людской добразычлівасці. Няхай Дух Святы шчодра адорыць Вас ласкавымі дарамі на ахвярным шляху служэння!*

***Ад імя вернікаў парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы, апостальскі рух "Маргарытка"***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



***Ксёндз Аляксандр Баран*** *адзначыў 3 мая імяніны, а 30 мая – Дзень нараджэння.*

*Дасылаем шчырыя словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму пробашчу!*

*Няхай будзе моцным здароўе, а радасць штодзённай! Няхай Вас заўсёды атуляюць промні Божай Міласэрнасці! Няхай заўсёды Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае ласкамі, а святы Заступнік знаходзіцца побач!*

*Дзякуем Пану Богу і Вам за Вашае служэнне ў нашым касцёле, за Божае слова, за павучальныя казанні, за цярплівасць, за прыклад пабожнасці, за добрае і чулае сэрца!*

***Вернікі касцёла Святога Андрэя, м. Лынтупы***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – В; 2 – Б; 3 – Б; 4 – Б; 5 – В; 6 – А; 7 – Б; 8 – Б

## Хрыстос уваскрос!



*20 мая ўгодкі святарскага пасвячэння адзначыў наш* ***айцец Андрэй Букштан*** *з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў г. Докшыцы, да якой належыць і наша капліца Езуса Міласэрнага ў в. Гняздзілава.*

*Паважаны айцец Андрэй! Шчыра дзякуем Пану Богу за Вас! Дзякуем, што праз Вашу паслугу мы маем найвялікшыя ласкі: адпушчэнне грахоў у сакраманце пакаяння, удзяленне нам святых сакрамантаў, абвяшчэнне і тлумачэнне Божага слова. Дзякуем за прыклад веры, за Вашу добразычлівасць, за цёплую айцоўскую ўсмешку, за тое, што ў Вашай прысутнасці ўсе небяспекі рэчаіснасці здаюцца мізэрнымі і нязначнымі.*

*Жадаем Вам, каб Пан Бог, дзеля хвалы сваёй велічы, заўсёды дапамагаў у спаўненні дарučанай Вам паслугі, а Маці Божая была ласкавай апякункай, трывалай заступніцай, цудадзейнай суцяшальніцай! Няхай Езус Міласэрны адорыць добрым здароўем і патрэбнымі ласкамі!*

***З павагай і малітвамі, вернікі з капліцы ў в. Гняздзілава***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*У нашага былога* ***пробашча Алега Півавара*** *13 чэрвеня – імяніны.*

*Прыміце, наш шаноўны ойча, шчырыя словы падзякі за Ваша вялікае, добрае сэрца, за глыбокую веру і любоў да людзей, за ўсё добрае і карыснае, чаму Вы нас навучылі!*

*Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя моліцца за Вас кожны дзень перад Божым тронам, а святы апякун Антоні Падуанскі будзе спадарожнікам на шляху да вечнасці, заступнікам і абаронцам, пуцяводнай зорачкай асвятляе ўсе дарожкі ў жыцці!*

*Мы, ксёндз Алег, кожны дзень молімся за Вас, любім Вас і чакаем у госці!*

*Сардэчна дзякуем Вашым бацькам за выхаванне сыноў-святароў!*

***Данута Голубева, ад імя вернікаў парафіі Святога Айца Піа ў Лёзне***

## Віншуем!

*Віншуем, паважаны* ***ксёндз-пробашч Алег Півавар****, з днём імянін (13 чэрвеня)!*

*Кланяемся і дзякуем Вам за словы навяртання, за стараннасць, за ўсё зробленае і задуманае Вамі для росквіту нашага касцёла, для парафіі, для нас усіх!*

*Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам у ажыццяўленні планаў, а Маці Божая несупынна моліцца за добрага, разумнага нашага ксяндза Алега! Моцнага Вам здароўя на доўгія гады і жыццёвай мудрасці, а таксама шанцавання ў штодзённых справах!*

***З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі з парафіі Святога Яна Хрысціцеля ў Валкалаце***

## Віншуем!

*Віншуем* ***ксяндза Юзафа Мельдзюка****, які 10 ліпеня адзначыць 20-ую гадавіну святарскага пасвячэння!*

*Цяпер (ужо амаль 9 гадоў) ксёндз Юзаф працуе ў в. Вішнева Валожынскага раёна.*

*Ад шчырага сэрца жадаем Божых ласкаў на кожны дзень святарскага жыцця, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл, поспехаў, натхнення, цярплівасці, добразычлівых людзей побач, багатага плёну ў працы на Божай ніве! Няхай Пан Бог дапамагае ажыццявіць усе мары і задумы!*

***З пажаданнямі і малітвай, родныя з сем'яў Пляшак, Шынкевіч, Кумішча***

## Хвала Хрысту!

*1 чэрвеня адзначыў Дзень нараджэння* ***ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч****. Парафіяне касцёла Яна Хрысціцеля з аг. Опса шчыра віншуюць яго з гэтай нагоды!*

*Дарагі наш душпастыр! Мы вельмі ўдзячныя Вам за ахвярнае служэнне Пану Богу і людзям, за Вашыя малітвы і адданасць справе. Няхай добры Пан Бог заўсёды натхняе Вас, дае моцы, а Маці Божая беражэ ад жыццёвых нягод! Моцнага здароўя і плёну ў працы!*

***Парафіяне касцёла Яна Хрысціцеля, аг. Опса***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны* ***ксёндз Ян Пугачоў****!*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння (3 чэрвеня) і імянінамі (24 чэрвеня)!*

***Мы дзякуем Богу за дзень той і час,***
***Калі даручыў Ён нас Вам!***
***І молімся шчыра заўсёды за Вас,***
***Да Бога Вы шлях адкрываеце нам.***

***Жадаем Вам, ойчанька, шчыра і многа:***
***Здароўя, павагі, любові, надзеі,***
***Хай сэрца заўсёды імкнецца да Бога,***
***Душа кожны год маладзее!***

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Пана ў Германавічах***



## Хвала Хрысту!

*24 чэрвеня адзначае імяніны* ***ксёндз Іван Кароткін****, а 27 чэрвеня –* ***дыякан Уладзіслаў Шарковіч****. З гэтай нагоды дасылаем ім віншаванні і жадаем, каб міласэрны Бог адарыў іх усімі неабходнымі ласкамі, даў сілы трываць у пакліканні, каб Маці Божая апекавалася заўсёды, а святыя Заступнікі дапамагалі ва ўсіх справах і пачынаннях!*

***Вернікі касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!



*Сардэчна віншуем з нагоды Дня нараджэння (1 ліпеня) нашага любімага ўсімі* ***ксяндза Міхаіла Татарэнку!***

*Паважаны ксёндз Міхаіл! У дзень свайго нараджэння прыміце шчырыя віншаванні ад парафіян касцёла Святога Міхаіла Арханёла ў Лужках!*

*Жадаем Вам шмат радасці, здароўя, нястомнага запалу ў святарскай паслузе! Няхай Найсвяцейшая Панна атуляе Матчынай любоўю і апекай, асабліва ў складаныя жыццёвыя хвіліны, і выпрошвае ў Сына ўсе неабходныя ласкі!*

*Вы нястомна і самаахвярна будуеце духоўны падмурак нашай парафіяльнай супольнасці, праз абвяшчэнне слова Божага ведзяце нас па дарозе Праўды. Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця! Няхай любоў і супакой застаюцца назаўжды ў Вашым сэрцы!*

*Мы ўдзячныя Вам за сумленнасць і адданасць Божай справе, за Вашу шырасць, за добрае сэрца і лагодную ўсмешку!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Міхаіла Арханёла (аг. Лужкі, Шаркаўшчынскі раён)***

## Віншуем нашых шаноўных пастыраў!



*17 чэрвеня дзень святарскага пасвячэння адзначылі* ***ксёндз Чэслаў Куцмеж*** *(32 гады) і* ***Анджэй Бульчак*** *(19 гадоў) з пастаўскіх парафій Святога Антонія Падуанскага і Езуса Міласэрнага. Віншуем нашых шаноўных пастыраў з вельмі важным днём у іх жыцці! Дзякуем Усявышняму, што па Яго волі святары вядуць нас да збаўлення. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць вас, паважаныя ксёндз Чэслаў і ксёндз Анджэй, за адданую службу Яму і людзям і дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця, а Маці Божая хай блаславіць на далейшыя гады нялёгкай святарскай паслугі!*

***Парафіяне з Пастаў***

## Шчыра дзякуем!

*Вельмі хочацца выказаць удзячнасць, павагу і любоў* ***ксяндзу Кшыштафу Сілкоўскаму****, які шмат гадоў аддаў служэнню Богу і людзям у Шаркаўшчынскай парафіі. Ад імя ўсіх парафіян нізкі Вам паклон, паважаны ксёндз Кшыштаф!*

*У кожнага чалавека ёсць свой лёс, свая гісторыя, у якую ўваходзіць кожны пражыты намі дзень...*

*25 гадоў таму шчыры, малады і прыгожы, як анёл з неба, з'явіліся Вы ў нашай парафіі, каб наноў адраджаць гісторыю шаркаўшчынскага касцёла.*

*Для многіх з нас Вы сталі айцом, братам і сябрам...*

*Шмат намаганняў прыклалі Вы для таго, каб мы сталі адной вялікай сям'ёй і прабачалі тым, хто не ведае, што робіць. На Вашых вачах выраслі мы, падрастаюць нашыя дзеці. У сэрцы кожнага з нас Вы як святар пакінулі свой значны след.*

*Дарагі, паважаны ксёндз Кшыштаф! Дзякуем Вам за час, які нам прысвячаеце, за Вашыя парады, за ўвагу да нашых спраў і праблем, а галоўнае, за любоў, якой Вы адорваеце кожнага з нас! Шлях святара цяжкі і цярністы...*

*Няхай Бог адорыць Вас здароўем, пастырскай мудрасцю і цярплівасцю, спакоем і мужнасцю прымаць тое, што немагчыма змяніць!*

*Мы Вас вельмі любім і цэнім, дзякуем Вам і нізка кланяемся за самаадданую працу ў нашай парафіі! І заўсёды чакаем, бо Шаркаўшчына – гэта Ваш дом, а мы – Ваша сям'я, Вашы дзеці.*



***Вернікі Шаркаўшчынскай парафіі***

## У добры шлях!



*Зусім нядаўна да нас быў пасланы Панам Богам* ***айцец Алег Вайцяховіч****. А 26 мая ён накіраваўся ў далёкую Грузію. Мы жадаем, каб Пан Бог атуляў айца Алега апекай, даваў сілы, мудрасць, разважлівасць, пакору і цярпенне, трываласць на абраным шляху.*

*Дзякуем за ласку спаткання з Вамі, айцец Алег, за ахвярнае служэнне ў нашай супольнасці, за глыбокую веру, шчырую малітву, прастату ў адносінах, любоў да свайго служэння, за добрае сэрца! З Богам у добры шлях!*

***Вернікі капліцкі Езуса Міласэрнага ў в. Гняздзілава***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны* ***ксёндз Зянон****! Прыміце нашыя самыя сардэчныя віншаванні з нагоды Вашых імянін! Жадаем Вам моцнага здароўя, няздомнага духу ў далейшым служэнні Богу і Касцёлу! Няхай у Вашай душы заўсёды будзе сапраўдная хрысціянская радасць! Зычым Вам шмат жыццёвай энергіі, а Маці Найсвяцейшая хай апякуецца Вамі заўсёды!*

***З удзячнасцю, вернікі касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Віншуем!

*Віншуем з днём нараджэння (17 чэрвеня)* ***сястру Цыпрыяну****, якая працуе ў пастаўскай парафіі Святога Антонія Падунскага. Ад усяго сэрца жадаем ёй шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Дзякуем за выхаванне дзяцей і моладзі, за зычлівасць да сталага пакалення. Няхай кожны Ваш дзень, дарагая сястра Цыпрыяна, будзе напоўнены цеплынёй, радасцю і надзеяй і ўсё рэалізуецца дзякуючы дапамозе Пана і добрых людзей.*

***Парафіяне з Пастаў***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Хочам павіншаваць з 75-гадовым юбілеем, які будзе адзначацца ў ліпені,* ***пані Леакадзію Яркавец*** *(на здымку ў цэнтры), маці ксяндза-каноніка Андрэя Яркаўца, які служыць у г. Бабруйску.*

*Калі будзеце ў вёсцы Удзела Глыбоцкага раёна, то накіруйцеся ад касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі па вуліцы Зарэчнай да дома №34, ля якога ўзвышаецца крыж. Гэты крыж паставіў спадар Францішак (светлая яму памяць). Тут і жыве пані Леакадзія з малодшым сынам Казікам. Гаспадыня сустрэне Вас добразычліва, з лагоднай усмешкай, прапануе халоднай вадзіцы са студні ля крыжа, кавы або гарбаткі. Пазнаёміць з сыночкам, у якога цяжкая хвароба. Ён не ходзіць, амаль не кладзецца ў ложак, сядзіць у інвалідным вазку. Не размаўляе, акрамя двух самых родных слоў «татка», «мама». Вельмі любіць слухаць малітвы, Імшы па тэлевізары і «Радыё Марыя», маліцца на ружанцы, адпускае маці ў касцёл. А маці, худзенькая, невысокага росту жанчына, ужо чацвёрты дзясятак даглядае свайго Казічка. Накарміць, пераапрануць, памыць і г.д. Хто мае дачыненне да такіх хворых, ведае, як гэта цяжка!*

*Далёка, у Бабруйску, служыць ксёндз Андрэй і не мае магчымасці часта наведваць маму і брата. Як кажа пані Леакадзія, Маці з вялікай літары: «Старэйшы сынок служыць Богу і людзям, а я – малодшаму».*

*Паважаная, родная наша сястрычка, з юбілеем! Жадаем здароўя, сілы, аптымізму! Хай добры Бог падтрымлівае Вас, а Маці Божая хай атуляе сваёй ласкай, асабліва ў складаныя жыццёвыя хвіліны, і выпрошвае ў свайго Сына ўсе неабходныя ласкі. А мы, родныя і блізкія, нізка кланяемся за Вашу ахвярнасць, шчырасць, добрае, чулае сэрцайка і заўсёды молімся за Вашу сям'ю. Шчасця Вам і Вашым сыночкам, трываласці ксяндзу Андрэю ў яго нялёгкай працы!*



***З павагай і дарам малітвы, парафіяне з в. Аляхновічы***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дзве сястры з ордэна Служабнічак Найсвяцейшай Панны Марыі, Беззаганна Зачатай, якія працуюць у віцебскай парафіі Езуса Міласэрнага, адзначылі ў маі дні народзінаў.* ***Сястра Ёнаша Мровец*** *нарадзілася 13 мая і адзначыла юбілейны дзень нараджэння,* ***сястру Люцыну Мусёл*** *мы віншавалі 29 мая.*

*Дарагія сястра Ёнаша і сястра Люцына!*

*Дазвольце павіншаваць вас з вашымі святамі і пажадаць моцнага здароўя, непахіснай веры, радасці, любові і поспехаў ва ўсіх справах! Няхай Панна Марыя атуляе вас мацярынскай любоўю, а Пан Бог выслухоўвае вашы малітвы і блаславіць вашу працу!*

*Прыміце асобныя віншаванні ад дзяцей, якія ўдзельнічаюць у катэхезе, і ад іх бацькоў, а таксама ад чальцоў клуба "Сеньёра". Шчыра дзякуем за працу ў нашай супольнасці, за падрыхтоўку заняткаў, мерапрыемстваў, за час, які вы ахвяруеце дзецям, за дабрыню і спагаду, якія дорыце людзям!*

*Памятаем пра вас у малітвах!*

***З найлепшымі пажаданнямі, вернікі парафіі***

## Хвала Хрысту!

На пачатку лета да нас дайшла балючая вестка: што 5 чэрвеня ўначы пайшоў у вечнасць наш дарагі духоўны **айцец Томаш Лях**, які ў апошні час працаваў у кляштары ў Непакалянове.

Айцец Томаш вельмі любіў наш беларускі народ і беларускі край, дзе на працягу 15 гадоў шчырай і адданай працы на духоўнай ніве адраджэння зняверчанага касцёла Святога Юзафа быў з намі. Цяжка цяпер нават уявіць, якіх намаганняў каштавала аднаўленне нашага касцёла пасля знішчэння фабрыкай!

Айцу Томашу дапамагалі выконваць цяжкую задачу інжынер Казімір Пазневіч, дырэктар "Сельгастэхнікі" В.І. Глябовіч, іншыя кіраўнікі ўстаноў нашага раёна. Планавалі, як ачысціць сцены і вывезці шмат будаўнічага смецця. Аўтабаза выдзяляла транспарт, а наперадзе ішоў з вялікай тачкай наш айцец Томаш. Рукі ў святара былі спрацаваныя, бо стараўся ўсё зрабіць самастойна.

Таксама быў пабудаваны касцёл у Забрэззі, куды пазней айцец Томаш ездзіў адпраўляць святую Імшу.

Многія жыхары Валожына бачылі, як ксёндз сам рамантаваў дах касцёла, па самым версе хадзіў, нібы па зямлі. Зімой сам расчышчаў занесеныя снегам сцяжынкі ля святыні.

Айцец Томаш вельмі паважаў праваслаўную веру, а таксама ўсіх людзей чыстага сэрца.

Падчас нашага прыезду ў Непакалянова святар з радасцю паказаў самыя важныя месцы ў кляштары. У гэты ж час тут быў з візітам ксёндз з Афрыкі, якому айцец Томаш перадаў усе сабраныя намі падарункі для галодных.

Пра гэтага святара можна гаварыць бясконца. Нас вучыў заўсёды памятаць, што на ўсё ёсць Божая воля, а жыццёвыя цяжкасці параўноўваць з крыжам Пана Езуса: тады будзе значна лягчэй усё пераадольваць.

Айцец Томаш пакінуў у нашых сэрцах яркі след любові да Бога! Мы будзем маліцца за душу памерлага, бо вельмі ўдзячныя за яго ахвярную працу, за наш прыгожы адноўлены касцёл Святога Юзафа, куды мы спяшаемся ў кожную нядзельку і святы.

***З павагай ад імя парафіян, Крысціна Маркоўская***

# Ці можна адмаўляцца ад ужывання лекаў?



***"Пахвалёны Езус Хрыстус! Дапамажыце калі ласка, знайсці адказ на пытанне: ці можа чалавек, калі хварэе, адмовіцца ад ужывання лекаў, бо лічыць, што лекі могуць прыносіць шкоду, а спадзявацца толькі на веру, якая вылечыць?"***

*З павагай, Павел"*

– Шаноўны Павел! Каб пастарацца больш поўна адказаць Вам, мы павінны зразумець, кім з'яўляецца чалавек. А адказ на гэтае пытанне і на пытанне, якое Вы задалі, мы паспрабуем знайсці ў Святым Пісанні і Катэхізісе Каталіцкага Касцёла *(далей па тэксце ККК)*.

У нумары 44 ККК азначае: "Чалавек па сваёй прыродзе і па пакліканні – істота рэлігійная. Прыйшоўшы ад Бога і ідучы да Бога, чалавек жыве цалкам па-чалавечы толькі тады, калі ён свабодна жыве сваёй сувяззю з Богам. Чалавек створаны, каб жыць у адносінах з Богам, у Якім ён знаходзіць сваё шчасце. *"Калі я прыпаду да Цябе ўсёй маёй істотай, знікне мой боль і смутак, і сапраўдным будзе жыццё маё, цалкам напоўненае Табой"* (св. Аўгусцін, *Споведзь*, 10, 28, 39).

У кароткім Катэхізісе, у разважаннях пра чалавека мы знаходзім наступныя адказы на пытанні:

***Хто такі чалавек?*** Чалавек – гэта Божае стварэнне, якое мае цела і несмяротную душу.

***Да каго падобная душа чалавека?*** Душа чалавека падобная да Пана Бога, бо яна – дух, яна мае розум, вольную волю і ніколі не памірае.

***Навошта Пан Бог стварыў чалавека?*** Пан Бог стварыў чалавека, каб чалавек любіў Пана Бога, выконваў Яго волю, а пасля смерці быў з Ім у небе.

***Чаму першыя людзі былі шчаслівымі?*** Першыя людзі былі вельмі шчаслівымі, бо былі любімымі Божымі дзецьмі. Яны сябравалі з Богам, не хварэлі і не павінны былі памерці.

З усяго сказанага мы можам зрабіць вывад, што чалавек – гэта стварэнне Бога, якое мае цела і душу. Душа падобная да Пана Бога і ніколі не памірае. Бог стварыў чалавека, каб ён любіў Бога, выконваў Яго волю. Першыя людзі не хварэлі і не паміралі.

Але праз грэх першага чалавека ў свет прыходзіць смерць і хвароба. *"Як праз аднаго чалавека грэх увайшоў у свет і праз грэх – смерць, так і смерць перайшла на ўсіх людзей, таму што ўсе зграшылі"* (Рым 5, 12).

Праз першую непаслухмянасць Адам і Ева адразу страцілі ласку першароднай святасці. Яны пачынаюць баяцца Бога. Гармонія, у якой яны прабывалі, знішчаная, улада духоўных уласцівасцяў душы над целам разбітая. Пасля першароднага граху сапраўднае "нашэсце" грахоў перапаўняе свет (ККК 399-401).

Мы можам убачыць, што ўжо з часоў Старога Запавету хваробы "спадарожнічалі" чалавеку. Святое Пісанне ўзгадвае розныя хваробы. Напрыклад, сярод праклёнаў, якімі Пан пагражае Ізраэлю, калі той адступіць ад Яго запаведзяў, узгадваюцца: бясплоддзе, сухоты, гарачка, запаленне, праказа, кароста, вар'яцтва, слепата і шмат іншых хвароб (Дрг 28, 27-30).

Але таксама са шматлікіх урыўкаў з Бібліі мы даведваемся, што думае Бог наконт стаўлення да здароўя чалавека. Святое Пісанне асуджае шкодныя празмернасці, напрыклад, п'янства і перааданне (Прып 23, 20). Закон, які Бог даў выбранаму народу, уключаў у сябе меры па барацьбе, а часам і прафілактыцы некаторых захворванняў. У Закон таксама ўваходзілі адмысловыя пастановы, якія прадухілялі няшчасныя выпадкі і траўмы (Дрг 22, 8). З гэтага бачна, што Біблія заахвочвае нас клапаціцца пра сябе і берагчы сваё здароўе.

Таксама трэба зазначыць, што ўжо ў біблейскія часы існавалі лекары (Сір 38, 1-14; Клс 4, 14; 1 Цім 5, 23). Езус таксама прызнаваў, што *"не здаровым патрэбны лекар, а хворым"* (Мц 9, 12).

Але ў той самы момант Біблія не ўсхваляе старанні людзей палепшыць сваё здароўе любым коштам. Напрыклад, яна не заахвочвае карыстацца распаўсюджаным сёння аздараўленнем верай, альбо адмаўленнем ад медыцынскай дапамогі па рэлігійных матывах. Трэба памятаць, што аздараўленне толькі верай не можа супрацьпастаўляцца прафесійнай медыцыне.

> **Святое Пісанне кажа вельмі ясна: *"Дай месца лекару, бо і яго стварыў Пан, і няхай не аддаляецца ад цябе, бо ён патрэбны"***

Большзатое,несуадносіцца са Святым Пісаннем і лячэнне, звязанае з чарадзействам. Святы апостал Павел кажа, што той, хто займацца чарадзействам, не атрымае ў спадчыну Валадарства Божага (Гал 5, 19-21). Заўсёды ў выпадку хваробы варта пазбягаць таго, што асуджае Святое Пісанне і навука Касцёла, і трэба своечасова звяртацца па належную медыцынскую дапамогу.

> **Цікавы факт: з 37 цудаў, узгаданых у Евангелллі, 25 – гэта выпадкі, звязаныя з аздараўленнем**

У Новым Запавеце тэма "хваробы і аздараўлення" таксама займае сваё важнае месца. Шмат разоў Езус учыніў цуды аздараўлення: вылячэнне цешчы Пятра, слугі сотніка, сляпога ад нараджэння, аздараўленне дзесяці пракажоных і яшчэ многія іншыя цуды. Цікавы факт: з 37 цудаў, узгаданых у Евангелллі, 25 – гэта выпадкі, звязаныя з аздараўленнем. Шмат аздараўленняў Езус здзяйсняе ў шабат – суботу (дзень, калі габрэям забаранялася ўсякая дзейнасць), чым выклікае, з аднаго боку, гнеў і асуджэнне вучоных у законе і фарысеяў, а з іншага – радасць народа, які *радаваўся ўсім слаўным учынкам Ягоным* (Лк 13, 17).

Суботнія аздараўленні, якія ўчыніў Збаўца, вельмі важныя для нашага разважання, бо яны адкрываюць перспектыву Валадарства Божага. Езус, прапаведуючы па суботах у сінагогах, абвяшчае, што наблізілася Валадарства Нябеснае, трэба пакаяцца і прымірыцца з Богам. Цуды аздараўлення, якія робіць Езус, з'яўляюцца пацвярджэннем Ягоных слоў.

Цуды, учыненыя Езусам, паказваюць, што на зямлі ўжо дзейнічае Божая моц, якая канчаткова пераможа ўсякую хваробу. Гэтыя цуды прадказваюць тую дасканаласць, якую набудзе чалавецтва ў Валадарстве Божым, калі, згодна са словамі святога апостала Яна, будзе новае неба і новая зямля, і Бог будзе жыць з людзьмі. І Ён *"вытрыць кожную слязу з вачэй іхніх, і ўжо не будзе ні смерці, ні смутку, ні плачу, ні хваробы ўжо не будзе, бо ранейшае мінула"* (Ап 21, 4).

З прыходам у свет Езуса Хрыста значэнне хваробы разглядаецца не ў тым, што яна павінна знікнуць з аблічча зямлі, а ў тым, што Божая моц, якая яе ў рэшце рэшт пераможа, ужо дзейнічае на зямлі. Бо хвароба хоць і мае нейкі сэнс, усё ж застаецца злом. У эсхаталагічных сведчаннях яе не будзе, бо: *"лісце дрэва (жыцця) служыць для лячэння народаў"* (Ап 22, 2).

Бог ад чалавека жадае паслухмянасці. А як мы можам выказваць паслухмянасць Богу? Перадусім праз выкананне запаведзяў, якія Бог даў свайму народу. Адна з іх, а дакладней, пятая запаведзь кажа: *"Не забівай!"* Здаецца, што гэтая запаведзь мае агульнага з адмаўленнем ужывання лекаў альбо з адмовай ад лячэння?

Слова "забойства" азначае не толькі, што адзін чалавек якой-небудзь зброяй альбо чымсьці іншым забівае іншага чалавека. Мы ведаем, што забойствам з'яўляецца парада зрабіць аборт, эўтаназія, самагубства, наўмыснае атручванне цяжка і невылечнахворых для палягчэння іх цялесных пакут, пакіданне без дапамогі параненага, п'янства, наркаманія, лячэнне ў экстрасэнсаў і бабак, адмова ад даступнага лячэння.

Адмовіцца ад ужывання лекаў – гэта якраз і з'яўляецца адмовай ад даступнага лячэння. Толькі дасканалыя, святыя людзі маглі цалкам пакладацца на Божую волю, чакаючы выздараўлення непасрэдна ад Бога, бо да гэтага яны заўсёды выконвалі Яго святую волю. Мы ж людзі недасканалыя і грэшныя і часам нясём крыж хваробы за свае грахі, таму больш правільна будзе звяртацца з малітвай да створаных Богам у супрацоўніцтве з чалавекам (урачамі, фармацэўтамі, навукоўцамі) сродкаў аздараўлення (лекі і медычная дапамога).

Некаторыя адмаўляюцца ад лячэння і лекаў праз легкадумства, спадзеючыся на тое, што "можа, само пройдзе". Такім людзям хацелася б прыгадаць, што здароўе – гэта Божы дар, які дапамагае нам годна служыць Богу і бліжнім.

Іншыя людзі адмаўляюцца ад лячэння, жадаючы хутчэй памерці. Гэта таксама грэх самагубства. Бог даў нам жыццё, даў нам крыж, і мы павінны несці яго да таго часу, пакуль Ён Сам не пакліча нас да Сябе. Таму грашаць тыя, хто свядома адмаўляецца ад лячэння, выбіраючы шлях павольнага самагубства.

Пасля такога разважання, спадзяюся, Вы, шаноўны Павел, а таксама і іншыя чытачы знайшлі адказ на зададзенае пытанне.

Памятайма, што рэлігійнае жыццё – гэта злучэнне зямнога і нябеснага існавання чалавека. Бо чалавек, апрача несмяротнай душы, мае таксама і цела. І медыцына ў гэтым кантэксце ўспрымаецца як добрая дзейнасць на карысць здароўю чалавека, яго целу і яго душы. І яна ў прынцыпе не павінна і не можа супярэчыць рэлігійным перакананням.

*З павагай і малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***
*(афіцыял Біскупскага Суда)*

Пазнаём Хрыста і Яго касцёл!

# Пазнавайка

## Бог кліча кожнага з нас да служэння Яму

У гэтым нумары разам з вамі працягваем назіраць за жыццём і дзейнасцю аднаго з выбраных Богам прарокаў Майсеем. Будзем разважаць над урыўкамі са **Святога Пісання: Кніга Зыходу 3 – 4, 9.**




Аднойчы ў пустыне Майсей убачыў незгараючы куст. Ён вельмі здзівіўся гэтай з'яве і падышоў паглядзець бліжэй.

Прачытай урывак з **кнігі Зыходу 3, 1-21** і даведайся, хто размаўляў з Майсеем з сярэдзіны куста.

**Калі злучыш правільна кропкі на малюнку пабачыш, каго ўбачыў Майсей у полымі агню.**






Бог прызначыў Майсею асаблівае служэнне: Ён загадаў Майсею вярнуцца ў Егіпет і вывесці ізраільскі народ з гэтай краіны. Майсей засумняваўся ў сабе, а Бог яму паабяцаў: ……

**Кніга Зыходу 3, 12**

**Выпішы па парадку ўсе літары з чырвоных пялёсткаў кветачкі, і зможаш прачытаць, што Бог паабяцаў Майсею.**







Прачытай урывак з **Кнігі Зыходу 4, 1-9** і даведайся пра цуды і знакі, якія Бог дараваў Майсею, каб пераканаць Фараона, што сам Гасподзь прамаўляе праз Майсея.

**Знайдзі сем адрозненняў на малюнках.**







Бог паабяцаў Майсею дапамагчы вывесці ізраільскі народ з егіпецкага рабства. Бог таксама будзе дапамагаць табе, калі ты будзеш служыць Яму. Усё што ты будзеш рабіць для Бога, прынясе табе радасць. Пачні ўжо з дзіцячых гадоў служыць Госпаду!

**Паразважай і запішы, якім чынам ты можаш кожны дзень радаваць Бога.**




Паглядзі як Святое Пісанне падказвае нам шлях да шчаслівай будучыні: **Кніга Езуса Навіна 24, 15.**

**Калі выпішаш літары з зорачак, зможаш прачытаць рацэпт шчаслівай будучыні, які нам дае Біблія.**




АДКАЗ:______________________________

## Памятай:

**Канікулы - час адказнай свабоды!
Свабодным можаш быць
толькі з Езусам.**



*Мастачка: **Вольга Будкіна**; ідэя: **Вікторыя Колзун***

